


Беларускі дзяржаўны музей гісторыі **Вялікай Айчыннай вайны.** Група моладзі ў адной з залаў. Тлумачэнні дае экскурсавод В. А. Крывічаніна (у цэнтры), удзельніца партызанскіх баёў на тэрыторыі Беларусі.

Фото А. Дзітлава.




Старшая стрэлачніца ст. Мінск-Таварная, комсамолка Е. Егоранкава.

Фото А. Дзятлава



Гродзенскі дзяржаўны зоапарк. Ружовыя пеліканы.
Фота А. Дзітлава.







# ДВА АКЦЁРЫ — ДЗВЕ РОЛІ

У прайшоўшым сезоне тэатры нашай рэспублікі правялі агляд творчых сіл моладзі. Агляд вылучыў многа здольных акцёраў. Сярод іх — артысты Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа М. Яроменка і М. Федароўскі.

У спектаклі «Гаіці» па п'есе У. Дзюбуа яны выконваюць рэзка супроцьлеглыя ролі. М. Яроменка выконвае ролю Анры Крыстофа — выдатнага негрыцянскага военачальніка, які стаяў на чале вызваленчай арміі ў яе барацьбе супраць французскага экспедыцыйнага корпуса, пасланага Напалеонам для заняволення народаў Гаіці.

М. Федароўскі ў ролі Леклерка паказвае генерала-каланізатара. Па меры развіцця спектакля Леклерк ператвараецца ў разгубленага, запалоханага, няўдачлівага ваяку.

Выкананне абодвух роляў сустракае цёплы прыём у гледача.

Фото А. Дзітлава.







# МІНСК



**Дзесяць год назад вуліцы Мінска ляжалі ў руінах. Першыя аднаўленцы горада жылі ў палатках** (фото ўнізе). **Зараз наша сталіца ўпрыгожылася велічнымі будынкамі, скверамі, плошчамі.** На цэнтральным здымку: **новыя дамы на Прывакзальнай плошчы.**

(Фото В. Лупейкі і А. Дзітлава.)



**Добрай славай сярод калгаснікаў калгаса «Другая пяцігодка» Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці карыстаецца комсамольская брыгада цесляроў Леаніда Федарэнкі.** На здымку: **комсамольская брыгада ў час адпачынку вядзе гутарку са старым цесляром Н. П. Маршалкам.** Злева направа: **М. Баранаў, Л. Федарэнка, Н. П. Маршалка, В. Дзенісенка, М. Трафімаў і В. Лямцаў.**

Фото А. Мызнікава.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

Ґазетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
**№ 7 (16)**
**Ліпень.**
**1954.**

І. ІГНАЦЕНКА,
кандыдат гістарычных навук

# Слаўнае дзесяцігоддзе



В. В. Волкаў. 3 ліпеня 1944 года ў Мінску.

У гэтыя дні калгаснік і рабочы, інжынер і аграном — кожны працаўнік нашай рэспублікі з усведамленнем найвялікшай гордасці агледзіць той слаўны шлях, які прайшла Беларусь з часу памятных ліпеньскіх дзён 1944 года, калі над нашай сталіцай Мінскам узвіўся сцяг вызвалення.

Савецкая Беларусь, створаная Вялікім Кастрычнікам, за гады савецкай улады непазнавальна змяніла сваё аблічча. З адсталай ускраіны былой царскай імперыі, дзе індустрыяй былі кулацкі млын, фабрыка квасу, бровар і сыраварня, Беларусь ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную рэспубліку, вядомую сваімі машынамі і ўраджаямі, сваімі выдатнымі дасягненнямі ў мірным будаўніцтве.

Напад гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз на тры гады спыніў стваральную працу беларускага народа. Беларусь адной з першых прыняла на сябе ўдар фашысцкіх полчышчаў. Люты вораг імкнуўся заняволіць беларускі народ, зрабіць савецкіх людзей пакорлівымі служкамі нямецкіх гаспадароў. Фашысты разбуралі гарады, палілі сёлы, расстрэльвалі тысячы мірных жыхароў. Тэрорам, здзекамі, масавым знішчэннем насельніцтва фашысты хацелі запалохаць беларускі народ, зрабіць яго пакорлівым. Але нішто не запалохала савецкіх людзей.

Верны сваёй маці-Радзіме, Камуністычнай партыі, беларускі народ высока ўзняў сцяг барацьбы за сваю чэсць, свабоду і незалежнасць. Больш мільёна сыноў і дачок беларускага народа разам з усімі народамі неабсяжнай савецкай Радзімы самаахвярна змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Сыны беларускага народа змагаліся пад Масквой, Сталінградам, пад Ленінградам і Орлом, ля Дняпра і Одэра, штурмавалі Берлін і вызвалялі Прагу. Па закліку Камуністычнай партыі больш 300 тысяч беларускіх партызан і партызанак са зброяй у руках абаранялі свабоду і незалежнасць беларускай зямлі. Ад рук народных мсціўцаў знайшлі сабе смерць сотні тысяч фашысцкіх захопнікаў. Велізарную дапамогу аказалі беларускія партызаны наступаючым войскам Савецкай Арміі. Яны разбуралі камунікацыі ворага, дапамагалі фарсіраваць водныя рубяжы, адбівалі і ўтрымлівалі да падыходу Савецкай Арміі чыгуначныя вузлы і важныя ў стратэгічных адносінах населеныя пункты.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Ганаровае званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 244 воінам-беларусам і 70 лепшым сынам і дочкам беларускага народа, якія вызначыліся ў партызанскай барацьбе. Залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю Айчыннай вайны слаўныя імёны генерала Даватара, капітана Гастэлы, малодшага лейтэнанта Талаліхіна, бясстрашнага снайпера Смалячкова, партызан Сільніцкага, Заслонава, Бумажкова, Ісачанкі і многіх тысяч другіх слаўных савецкіх патрыётаў.

У ліпені 1944 года гераічная Савецкая Армія выгнала фашысцкіх захопнікаў з беларускай зямлі. Трэцяга ліпеня была вызвалена сталіца рэспублікі — горад Мінск, і ў хуткім часе стала свабоднай уся тэрыторыя Беларусі. У вызваленні Савецкай Беларусі выключная роля належыць вялікаму рускаму народу, вядучаму ў сям'і ўсіх народаў нашай неабсяжнай Радзімы.

Ужо на працягу першых пасляваенных год былі адноўлены такія буйнейшыя прадпрыемствы, як шклозавод імя І. В. Сталіна і завод сельскагаспадарчага машынабудавання імя Л. М. Кагановіча ў Гомелі, станкабудаўнічыя заводы ў Мінску, Віцебску і Гомелі, асноўныя прадпрыемствы лёгкай і мясцовай прамысловасці, прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. У нябывала кароткі час былі адноўлены ўсе калгасы і саўгасы. Ужо на чацвёртым годзе пасля вызвалення пасеўная плошча рэспублікі амаль дасягнула даваеннай.

Камуністычная партыя, Савецкі ўрад надавалі выключную ўвагу аднаўленню, павышэнню жыццёвага і культурнага ўзроўню працоўных Беларусі. Разам з аднаўленнем фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў ішло велізарнае жыллёвае і культурнае будаўніцтва.

Пасляваенныя гады для нашай рэспублікі характэрныя не толькі велізарным размахам аднаўленчых работ. Гэты перыяд знамянальны будаўніцтвам новых прамысловых прадпрыемстваў і ўзнікненнем цэлых галін прамысловасці. Зараз Беларусь мае ўласнае трактарабудаванне і аўтамабілебудаванне. У рэспубліцы выраслі новыя матавеласіпедны лакамабільны, станкабудаўнічы заводы. За гады пасляваеннай пяцігодкі пабудаваны дыванова-плюшавы камбінат у Віцебску, тонкасуконныя камбінаты ў Мінску і Гродна. Больш чым у два разы ў параўнанні з даваенным узрасла энергетычная база рэспублікі.

Вялікія здабыткі на рахунку працаўнікоў сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Калгасы і саўгасы рэспублікі не толькі дасягнулі даваеннага ўзроўню, але і перавысілі яго. Аднак і гэты ўзровень яшчэ не адпавядае поўнасцю тым задачам, якія паўсталі зараз перад краінай. Патрэбы насельніцтва ў прадуктах харчавання, а прамысловасці — у сыравіне яшчэ не поўнасцю задавальняюцца сельскай гаспадаркай. Рашэнні верасвеўскага і лютаўска-сакавіцкага пленумаў ЦК партыі накіраваны на ажыццяўленне ў бліжэйшыя 2 — 3 гады крутога ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі. Натхнёнае клопатамі партыі аб росце дабрабыту насельніцтва, калгаснае сялянства з найвялікшым працоўным энтузіязмам змагаецца за ажыццяўленне гэтай адказнай задачы.

Працоўныя нашай рэспублікі могуць законна ганарыцца тымі велічнымі здабыткамі, якіх яны дамагліся за прайшоўшыя дзесяць год. Беларусь зрабіла новы вялікі крок у сваім гаспадарчым развіцці, яна няўхільна развівае сваю культуру. Сярэдніх школ у нас зараз у паўтара раза болей, чым было да вайны. Створаны сотні сярэдніх школ рабочай моладзі. Паспяхова ажыццяўляецца задача пераходу ад усеагульнага сямігадовага да дзесяцігадовага навучання. Развіццё народнай гаспадаркі рэспублікі прад'яўляе ўсё большыя патрабаванні да навуковых і вышэйшых навучальных устаноў. Зараз у Беларусі паспяхова развіваюцца тэарэтычная фізіка, матэматыка, геалогія, праблемы якіх раней у нас амаль не распрацоўваліся. Акадэмія навук актыўна праводзіць даследчую работу па механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, па механізацыі гідрамеліяратыўных работ, па гідралогіі тэрыторыі Беларусі, па вывучэнню мінеральных і тарфяна-балотных глеб.

За прайшоўшае дзесяцігоддзе не толькі адноўлены ўсе даваенныя ВНУ, але і створан цэлы шэраг новых. У Гомелі працуе новы Інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, у Гродна — Сельскагаспадарчы інстытут, у Мінску — Інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. У Мазыры, Брэсце і Полацку створаны новыя педагагічныя інстытуты.

За прайшоўшыя гады паўстала з руін у сваёй новай велічнай прыгажосці сталіца рэспублікі — горад Мінск, добраўпарадкоўваюцца ўсе гарады і сёлы нашай рэспублікі.

Поспехі, якіх дамаглася Беларусь, былі-б немагчымымі без той велізарнай дапамогі, якую аказалі ёй усе народы нашай краіны, і ў асаблівасці вялікі рускі народ.

У брацкай сям'і ўсіх савецкіх народаў беларускі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўпэўнена ідзе да сваёй светлай будучыні, да камунізма.

# ПЕРАЎТВАРАЛЬНІКІ ПАЛЁЎ

Юнак толькі што надзеў новыя боты і важна прахаджваецца па двары. На ім сіняя форменка, чорная шапка. Цяпер ён навучэнец школы механізацыі. Яго завуць Віктар Кушнераў.

Кушнераў і яго сябры, якія крочаць за ім, толькі што прыехалі ў Магілёўскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Па знешняму выгляду Віктар і яго сябры — самыя звычайныя хлопцы, тыя, што любяць пасмяяцца, перакінуцца вострым слоўцам. Але гэтым не ўсё скажаш пра іх. Самае галоўнае тое, што яны закончылі ўжо рамесніцкае вучылішча, сталі токарамі, слесарамі, кавалямі, а зараз авалодваюць спецыяльнасцю механізатараў. Такія людзі вельмі патрэбны сельскай гаспадарцы.

— Для мяне цяпер толькі давай работу, — не без гонару заяўляе Віктар Кушнераў. — Умею каваць, працаваць на такарным станку. А яшчэ трактарыстам стану, сельскагаспадарчую тэхніку буду ведаць. А трактарыст-жа самая галоўная фігура ў сельскай гаспадарцы...

Воддаль ад вучэбных карпусоў, у другім канцы пасёлка, крыху старэйшая моладзь, але такія самыя размовы. Тут здаюць выпускныя экзамены камбайнеры-механікі, якія праз тыдзень ужо будуць працаваць на калгасных палетках. Экзамен гэты, праўда, праходзіць не ў зусім звычайнай абстаноўцы. Няма стала, засланага чырвоным абрусам. Экзамінатар, старшы інжынер-механік Іван Васільевіч Барадзін разам з выпускніком Валянцінам Новікавым стаіць на мосціку камбайна. Валянцін хвалюецца, але адказвае бойка і ўпэўнена. Вакол машын з сур'ёзнымі абліччамі ходзяць яшчэ некалькі выпускнікоў, якія трымаюць у руках белыя лісткі-білеты.

На беразе Дняпра, у невялікім пасёлку Буйнічы, які тоне ў засені стогадовых ліп, размешчана школа механізацыі. Прыезджаму чалавеку не трэба шыльды, каб даведацца, што гэта за ўстанова. Усё на кожным кроку нагадвае аб тым, што людзі, якія тут жывуць, настойліва авалодваюць тэхнікай дзеля пераўтварэння палёў.

Дзесяць год назад, калі дырэктар Аляксей Вісарыёнавіч Львоў у ліку іншых энтузіястаў прыехаў на месца будучага вучылішча, ён застаў там толькі разбураныя сцены і папялішчы.

Тады не было яшчэ ні вучэбных карпусоў, ні гаражоў і майстэрняў з іх складанымі машынамі і абсталяваннем, ні падсобнай гаспадаркі з яе механізаванымі жывёлагадоўчымі фермамі, ні вялікага саду.

Вучылішча расло з кожным годам. Яно рыхтавала для калгасаў кадры, якія былі патрэбны сельскай гаспадарцы. Калі ў 1944 годзе спатрэбіліся вядучыя механізатары, школа стала рыхтаваць механікаў МТС, брыгадзіраў

У вучобе шмат цікавага, захапляючага. Віктар Кушнераў вельмі задаволены, што вучыцца ў школе механізацыі.

**Сапраўдны трактарыст павінен умець працаваць усюды, ведаць усе сельскагаспадарчыя работы.** На здымку: **будучы трактарыст Васіль Дрысвянін з майстрам Станіславам Дубоўскім на практычных занятках па апрацоўцы міжраддзяў саду.**





Школу механізацыі часта наведваюць экскурсіі з калгасаў. На здымку: экскурсанты наглядаюць за работай гідраўлічнага тарана.

трактарных брыгад, трактарыстаў і шафёраў, рахункаводаў калгасаў.

Сельская гаспадарка мацнела ў пасляваенныя гады. Ёй патрэбны сталі шматлікія кадры, авалодаўшыя самай рознастайнай тэхнікай. Вучылішча ў дадатак да ранейшых прафесій пачало рыхтаваць старшынь калгасаў, камбайнераў, электраманцёраў, электрамеханікаў, радыётэхнікаў, брыгадзіраў мантажных брыгад, начальнікаў электрастрыгальных апаратаў, тэхнікаў калгасных радыёвузлоў.

За дзесяць год свайго існавання школа выпусціла 6.164 спецыяліста розных галін.

Цяжка знайсці другую навучальную установу ў рэспубліцы, якая была-б цясней звязана з калгасным жыццём, чым гэтая школа механізатараў. Яе выхаванцы вырошчваюць высокія ўраджаі на калгасных палях, механізуюць жывёлагадоўчыя фермы, электрыфікуюць арцельныя галіны вытворчасці, праводзяць у калгасныя хаты радыё. Шмат хто з тых, якія закончылі школу, сталі праслаўленымі майстрамі ўраджаяў, вопытнейшымі механізатарамі, адзначанымі за дасягнутыя поспехі ўрадавымі ўзнагародамі.

На Віцебшчыне вядомы рэкорднай выпрацоўкай на камбайне выпускнік школы Аляксей Серада, ганарыцца поспехамі свайго брыгадзіра трактарнай брыгады Г. І. Талкачова калектыў Пролетарскай МТС, праславіўся на ўсю вобласць камбайнер другой Крычаўскай МТС Іван Капылоў. Такіх сотні — брыгадзіраў трактарных брыгад, трактарыстаў, камбайнераў, механікаў. Яны часта прыязджаюць сюды, каб абмяняцца вопытам, набыць новыя веды. Амаль штодзённа наведваюць вучылішча экскурсіі з МТС і калгасаў рэспублікі. Тут можна навучыцца квадратна-гнездавому спосабу пасадкі бульбы, азнаёміцца з работай поўнасцю механізаваных жывёлагадоўчых ферм, з многімі іншымі цікавымі справамі.

За дасягнутыя поспехі ў падрыхтоўцы спецыялістаў для сельскай гаспадаркі Магілёўскае вучылішча № 19 у ліку некалькіх іншых школ Совецкага Саюза зацверджана ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве.

Калектыў вучылішча настойліва змагаецца за ажыццяўленне рашэнняў вераснёўскага Пленума ЦК КПСС. У адпаведнасці з новымі задачамі па-новаму перабудавана работа. Зараз у школе навучаецца каля тысячы будучых высокакваліфікаваных механізатараў.

Курсанты вучылішча — пераважна людзі, якія прышлі сюды ад трактара і камбайна, з палявочай брыгады і жывёлагадоўчай фермы. Яны прышлі, каб глыбей авалодаць тэхнікай, стаць поўнацэннымі майстрамі сваёй справы. Вучылішча рыхтуе спецыялістаў трох шырокіх профіляў: механікаў-камбайнераў, трактарыстаў-машыністаў і брыгадзіраў трактарных брыгад. Зараз спецыялісты сельскай гаспадаркі авалодваюць адразу некалькімі прафесіямі. Механікі-камбайнеры, напрыклад, будуць працаваць не толькі на збожжавых камбайнах, але і дасканала авалодаюць бульбакапалкамі, ільнацерабілкамі, увогуле ўсімі машынамі, якія знаходзяць прымяненне ў практыцы; будуць таксама ведаць справу механізацыі жывёлагадоўчых ферм.

Тое самае і трактарысты-машыністы.

Некаторыя са спецыялістаў, закончыўшых вучылішча, прадаўжаюць вучобу ў тэхнікумах або навучаюцца ў інстытутах. У вучылішчы, напрыклад, з павагай называюць прозвішча сённяшняга студэнта Харкаўскага інстытута механізацыі Іванюшкіна, механіка Чэрыкаўскай МТС.

Сённяшнія выпускнікі шмат набылі ведаў. У гэтыя дні адбыліся выпускныя экзамены новага вялікага атрада (392 чалавекі) механікаў-камбайнераў, якія накіроўваюцца ў МТС на працу. Камбайнеры авалодалі асновамі агратэхнікі, дасканала валодаюць рамонтнай і мантажнай справай. А брыгадзіры трактарных брыгад, якіх выпускае вучылішча, гэта, па сутнасці, таксама механікі. Яны ведаюць слясарную і кавальскую справу, умеюць рабіць і чытаць чарцяжы, для іх не з'яўляецца загадкай ні адзін механізм, што прымяняецца ў сельскай гаспадарцы.

Шмат папрацаваў калектыў вучылішча, каб зрабіць сваіх выхаванцаў усебаковымі спецыялістамі. Затое радасныя вынікі. Шмат хто з сённяшніх выпускнікоў механікаў-камбайнераў атрымлівае атэстаты выдатніка. Сярод іх Валянцін Новікаў, які прыехаў з Латвянскай МТС, Уладзімір Савіцкі з Беларускай МТС, Мікалай Гаравікоў з Жалезінскай МТС і многія іншыя.

Вестка аб тым, што вучылішча механізацыі — адно па рэспубліцы — зацверджана ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, усхвалявала ўвесь калектыў. Гэтай весткай ганарацца і сённяшнія курсанты, і тыя, што закончылі школу, працуюць на калгасных палях, дамагаюцца высокіх ураджаяў. Ганарыцца і выкладчыкі калектыў вучылішча, тыя, хто ўсе гэтыя пасляваенныя гады нястомна навучаў армію спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

**І. НАУМЕНКА.**

**Магілёўскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі № 19.**

Праз тыдзень-два па масівах калгасных палёў паплывуць камбайны. У барацьбу за хлеб уключыцца і новы вялікі атрад механікаў-камбайнераў, якіх гэтымі днямі выпускае вучылішча. На здымку: выпускнік Валянцін Новікаў здае экзамен па камбайнах старшаму інжынеру-механіку І. В. Барадзіну.

Фото А. Дзітлава.



# НАПЯРЭДАДНІ АДКРЫЦЦЯ

**Пісьмо з Масквы**

Выдатнай падзеяй у жыцці савецкага народа з'явіцца адкрыццё Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Пакуль яшчэ закрыты ўваход на выстаўку, але штодзённа сюды прыязджаюць тысячы людзей. І гэта зразумела. Наўрад ці знойдзецца чалавек, якому не хацелася-б хутчэй уласнымі вачыма ўбачыць выдатны плён стваральнай працы савецкага народа.

Выстаўка 1954 года сапраўды велічная і грандыёзная. Звыш 200 гектараў займае яе тэрыторыя. Гэта — сапраўдны горад, забудаваны арыгінальнымі і своеасаблівымі па свайму афармленню будынкамі. Тут можна пазнаёміцца з лепшымі ўзорамі архітэктурнага мастацтва народаў нашай вялікай Радзімы. Кожнаму з павільёнаў саюзных рэспублік архітэктары і будаўнікі надалі свой непаўторны нацыянальны каларыт.

Павільёны размешчаны ў садах. Клумбы, газоны, вырашчаныя ўмелымі рукамі садоўнікаў, нясуць пахі хваёвых лясоў Беларусі, цытрусавых і чайных плантацый Грузіі, вінаграднікаў Малдавіі, вішнёвых гаёў Украіны...

Нават беглы агляд выстаўкі патрабуе шмат гадзін. 76 павільёнаў, 232 спецыяльных збудаванні, культурна-бытавыя і гандлёвыя прадпрыемствы, велізарны мічурынскі сад, дзесяткі фантанаў, сажалкі для плаваючых птушак... Цяжка нават пералічыць усё тое, што пабудавана тут.

Выстаўка мае шэсць уваходаў. З кожнага раёна сталіцы можна лёгка праехаць да выстаўкі. Асноўная магістраль праходзіць сюды ад цэнтра — плошчы Рэвалюцыі — па рэканструяванай Мяшчанскай вуліцы. У недалёкім будучым ля самай выстаўкі ўзнімецца наземны вестыбюль станцыі метро новай трасы.

Манументальна выглядае арка галоўнага ўваходу. Над ёю ззяе золатам скульптурная група — трактарыст і калгасніца з высока ўзнятым снапом пшаніцы. Гэтая скульптура добра знаёма савецкім людзям яшчэ па даваеннай выстаўцы 1939—41 гг. Ад уваходу пачынаецца жывапісная алея — выдатны ўзор дасягненняў нашага дэкаратыўнага садоўніцтва. Як-бы спаборнічаючы са шпілямі павільёнаў, узнялася на 15-метровую вышыню пірамідальная таполя. Усцяж алеі з абодвух бакоў устаноўлены гіганцкія фантаны. Абмураваныя чырвоным гранітам басейны ярка вылучаюцца на шматкаляровым дыване газонаў.

Сярод фантанаў сваім афармленнем і памерамі вылучаецца фантан «Дружба народаў». Ён — самы вялікі ў сталіцы. 1.700 вадзяных струменяў будуць выкідвацца ім на вышыню ад 12 да 20 метраў. У мастацкім афармленні фантана ярка выражана ідэя брацкай дружбы народаў СССР. Васьміметровы сноп пшаніцы, які служыць цэнтрам фантана, акружаюць 16 скульптурных фігур дзяўчат-калгасніц, апранутых у святочныя нацыянальныя касцюмы. Навокал фантана пасаджана каля 100 тысяч рознастайных кветак.

Сімвалам багацця сельскагаспадарчых прадуктаў у нашай краіне з'уляецца фантан «Каменная кветка». Ён размешчаны побач з павільёнам Украінскай ССР. Фантан выкананы па матывах уральскіх народных казак Бажова. У цэнтры яго — уральскія самацветы, якія служаць асновай для велізарнай каменнай кветкі. Басейн фантана ўпрыгожваюць фігуры лебедзяў і чашы з садавінай і гароднінай. На пракладзеных у басейне трубах замацаваны металічныя фігуры рыб.

Мастацка-дэкаратыўнае афармленне тэрыторыі выстаўкі яшчэ больш падкрэслівае прыгажосць павільёнаў. Самым вялікім з іх з'яўляецца галоўны. Амаль на 100 метраў узнімаецца яго пазалочаны шпіль з зоркай. У Галоўным павільёне, плошча якога дасягае 4.500 квадратных метраў, адлюстраваны агульныя пытанні развіцця сельскай гаспадаркі краіны, паказана, як на практыцы выконваюцца рашэнні вераснёўскага і лютаўска-сакавіцкага пленумаў ЦК КПСС. Экспазіцыя гэтага павільёна служыць як-бы ўводным раздзелам выстаўкі.

Выстаўка складаецца з чатырох раздзелаў: саюзна-рэспубліканскіх і занальных павільёнаў РСФСР, раслінаводства, жывёлагадоўлі, механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Раздзел раслінаводства займае тэрыторыю ў 44 гектары На ім размешчаны 15 павільёнаў па розных галінах з экспанатнымі ўчасткамі, садам, ягаднікамі і лясными палосамі. Многа цікавага ўбачаць тут наведвальнікі. На ўчастках прадстаўлена 300 сельскагаспадарчых культур 2.500 гатункаў. У садзе пасаджана 2.300 пладовых дрэў 520 гатункаў, 40 гатункаў пладова-ягадных раслін.

У дваццаці трох павільёнах раздзела жывёлагадоўлі прадстаўлена звыш трохсот парод і пародных груп жывёлы. Збудаваны спецыяльны круг, дзе наведвальнікам будзе дэманстравацца жывёла. Экскурсанты могуць азнаёміцца таксама з работай малочнага завода, інкубацыйна-птушкагадоўчай станцыяй і ветэрынарнай паліклінікай.

Адным з найбольш вялікіх з'яўляецца раздзел механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Многа чаго дасягнула наша краіна ў гэтай галіне, і раздзел уяўляе вялікую цікавасць багаццем і рознастайнасцю экспанатаў. Яны не змясціліся ў збудаваным павільёне, нягледзячы на яго вялізны памер — 18 тысяч квадратных метраў. Частка экспанатаў, галоўным чынам сельскагаспадарчыя машыны, знаходзіцца на спецыяльнай пляцоўцы.

У 26 залах павільёна сабраны больш 800 тыпаў сельскагаспадарчых машын і прылад. У ліку экспанатаў — трактары Мінскага трактарнага завода, сельскагаспадарчыя машыны і станкі з маркай беларускіх прадпрыемстваў.

Вялікую частку тэрыторыі выстаўкі займаюць 16 павільёнаў саюзных рэспублік.

Над павільёнам Беларускай ССР узвышаецца скульптура А. Бембеля — «Радзіма-маці». Павільён збудаваны па праекту лаўрэатаў Сталінскай прэміі архітэктараў Г. Захарава і З. Чарнышовай. Сама архітэктура будынка, яго знадворная і ўнутраная адздзелка, мастацкае афармленне — усё гэта сведчыць аб няўхільным росце Беларускай рэспублікі.

Уваходзіш у павільён праз адкрыты порцік з масіўнымі калонамі, якія ўпрыгожаны нацыянальным арнаментам з каляровай керамікі. Над порцікам — Дзяржаўны герб Беларускай ССР, па баках — скульптурныя групы рабочага і калгасніка, савецкага воіна і партызана, выкананыя скульптарамі А. Глебавым і С. Селіханавым. Шырокая фрэска, якая акаймоўвае ўваход, расказвае аб выдатных поспехах беларускага народа.

Адразу за порцікам пачынаецца ўводная зала. Ля ўваходу ў яе, нібы вартавыя, застылі ўвекавечаныя ў гіпсе слаўныя сыны беларускага народа Героі Савецкага Саюза легендарны лётчык Нікалай Гастэла і мужны партызан Канстанцін Заслонаў.

Уводнай залай адкрываецца экспазіцыя павільёна. Яна расказвае аб велічных поспехах працоўных рэспублікі ў барацьбе за ператварэнне Беларусі з адсталай у мінулым калоніі царскай Расіі ў перадавую індустрыяльна-калгасную рэспубліку.

Выставачная зала. Тут на стэндах і вітрынах прадстаўлены сотні перадавых калгасаў, соўгасаў, МТС, навуковых устаноў, якія заваявалі правы ўдзелу ў выстаўцы. Мы бачым выдатны плён працы членаў праслаўленых калгасаў імя Гастэлы Мінскай вобласці, «Рассвет» Магілёўскай вобласці, імені Молатава Брэсцкай вобласці, рабочых соўгаса «Ведрыч» Гомельскай вобласці, Іванаўскай машынна-меліяратыўнай станцыі, Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі БССР і дзесяткаў іншых.

... Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка па памерах сваёй тэрыторыі, па колькасці павільёнаў і ліку ўдзельнікаў не мае сабе роўнай у свеце. Роўнай у свеце не мае яна сабе і па мэтах і задачах, якія пастаўлены перад ёю. Яна будзе не толькі дэманстраваць велізарныя поспехі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі нашай краіны, але і з'явіцца сапраўднай школай народнага вопыту для мільёнаў працаўнікоў сацыялістычных палёў.

**Я. ГОЛУБЕЎ.**




## НАСУСТРАЧ ВЫСТАЎЦЫ!

Галоўны ўваход на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.





Аляксей **КУЛАКОЎСКІ**

# Сёстры

**Раздзел з трэцяй часткі рамана**

**«РАССТАЕМСЯ НЕНАДОЎГА»**

Мал. І. Давідовіча.

Пасля заняткаў настаўніца Валянціна Захараўна сказала Аліне, што варта было-б наведаць хворага фізрука, а то нядобра неяк выходзіць: усё-ж такі член калектыва. Ала адразу-ж падхапіла, што гэта сапраўды член калектыва, што даўно трэба было яго наведаць, што яна гатова ісці хоць у гэтую-ж хвіліну. Не здагадалася дзяўчына толькі аб тым, што Валянціна Захараўна і ўспомніла пра гэта, ведаючы алінае жаданне.

Умовіліся запрасіць і загадчыка навучальнай часткі Анну Сцяпанаўну Труцікаву. Ісці прыйшлося далекавата, бо Анатолі Ксенафонтавіч кватараваў за мастком, ледзь не ў самым канцы вёскі. Снег суха і гучна скрыпеў пад нагамі. На хуткай хадзе займала дух: мароз у гэтых месцах перавышаў трыццаць градусаў. Валянціна Захараўна не так мёрзла, бо была крыху лепш апранута, ды і прызвычаілася яна да такіх маразоў, а Анне Сцяпанаўне і Але было не надта ўтульна. Ала ўсё парывалася бегчы, ды Анна Сцяпанаўна не паспявала за ёю.

На вуліцы амаль нікога не было, нават усякае хатняе птаства трымалася бліжэй да седала. З мясцовых жыхароў сустрэўся толькі адзін дзядок, увесь белы, нібы вылеплены з снегу. Гэта ад інею. На жываце ў яго вісела паштарская раменная сумка, а ў абхваце вялікай аўчыннай рукавіцы была стопка франтавых трохкутнікаў розных памераў і колераў. Паштальён заходзіў амаль у кожны двор.

— Мне нічога няма? — падбегшы да старога, спытала Валянціна Захараўна.

— Сёння няма, — адказаў паштальён.

А Анна Сцяпанаўна і Ала правялі старога сумнымі вачыма: ім нічога не прынясе гэты чалавек, ніколі не пастукае да іх на кватэру.

— Няўжо ў вас кожную зіму такія маразы? — спытала Труцікава ў Валянціны Захараўны. — Гэта-ж усё жывое можа вымерзнуць.

— У мінулым годзе яшчэ большыя былі, — адказала настаўніца.

— Ну, а ў школе як? Мерзлі, як і цяпер?

— Мерзлі, — з адценнем смеху пацвердзіла Валянціна Захараўна. — Каля месяца зусім не займаліся, хоць і дроў тады больш было.

— Лес пад бокам, — абураюча загаварыла Ала. — А мы качанеем.

— Заўтра едзем! — цвёрда сказала Анна Сцяпанаўна. — Нядаўна я зноў была ў сельсовеце, у праўленні калгаса. І мы паедзем. Няхай некалькі ўрокаў прапусцім, але ў гэтым годзе не закрыем школы. І вучні мерзнуць не будуць.

— Здаецца, і многа было гэтых дроў, — заўважыла Валянціна Захараўна, — навазілі за лета, але дырэктарша частку спаліла, а частку загадала пасекчы ды скласці ў іхнюю дрывотню.

— Давайце набярэм сёння з дрывотні, — горача загаварыла Ала, — ды напалім печы нанач... Так напалім, каб усе вокны паадтайвалі, каб заўтра прыйсці ў клас ды распрануцца.

— А Любамір Пятровіч дазволіў-бы, — не пярэчачы Але, сказала Валянціна Захараўна, — ды жонка не пусціць у дрывотню. Там на варотах замок з сабаку вісіць.

Каля парога той хаты, дзе жыў Анатолі Ксенафонтавіч, настаўніцы сустрэлі кааператыўшчыцу і загадчыцу паштовага аддзялення. Яны толькі што зачынілі дзверы сенцаў. Жанчыны недобразычліва паглядзелі на Алу і, ужо размінаючыся, сказалі ўсім «дзень добры». Хоць абедзве яны былі яшчэ ва ўсёй сваёй жаночай красе, усё-ж адчувалі, што Ала, к выпадку, можа ўзяць верх над імі: і тым, што незамужняя, і тым, што маладзейшая. Таму яны недалюблівалі дзяўчыну.

Ала-ж не заўважала гэтага і не адчувала за сабою ніякай віны. Тое, што яна часцей бачылася з Анатолем, нікога не магло крыўдзіць: яны разам працуюць. Затым-жа, Анатолі — малады хлапец, і не кампанія яму замужнія жанчыны, хоць цяпер і без гаспадароў.

Ала тут памылялася крыху: Анатолі не надта цураўся кампаніі замужніх жанчын. Больш за ўсё яму імпанавала тое, што ён тут адзін такі на ўсю вёску. Ніхто тут не мог зраўняцца з ім ні па маладосці, ні па статнасці, ні па ўменню выгадна паказаць сябе на людзях. Усе хлопцы і малодшыя мужчыны з гэтай вёскі пайшлі ў армію.

Рэдка траплялся такі вечар, каб Анатолі не быў дзе-небудзь у гасцях, у каго-небудзь на імянінах, на ўводзінах. Што-б хто дзе ні спраўляў, калі там маглі быць маладыя жанчыны, то абавязкова запрашаўся і Анатолі. А кааператыўшчыца наперабой з паштаркай наўмысля выдумлялі якія-небудзь святы, сустрэчы, каб толькі мець магчымасць запрасіць да сябе фізрука. І наведваўся сюды фізрук ахвотна: выпіўкі і закускі хапала, ды не абы якой.

Вось і сёння, пачуўшы незнаёмыя крокі ў сенцах, Анатолі аберуч ледзь паспеў прыбраць усё тое, што яму нанеслі гэтыя дзве кабеты. А як толькі настаўніцы прыадчынілі дзверы, ён схаваў левую руку і паверх чырвонай плюшавай коўдры каля працягнуў толькі правую.

У пакоі пахла тонкімі духамі. Усё было акуратна прыбрана, дарма што тут жыў халасцяк. На прадаўгаватым століку ля акна быў засланы прыгожы, не дамашняй работы, абрус з кутасікамі па краях. Ля ложка стаяла табурэтка, засланая газетай. Плямкі ад ежы і кружочкі ад пляшак на газеце здалёк не прыкмячаліся. Падлога была чыста вымыта. І сам Анатолі быў у дарагім узорыстым світары, хоць у школу заўсёды прыходзіў у вайсковым адзенні.

— От каго не чакаў, а толькі ў снах бачыў! — узрадавана загаварыў фізрук, прыпадняўшыся на локаць і многазначна паглядваючы на Алу. — Праходзьце, калі ласка, праходзьце. Не крыўдуйце, што не магу ўстаць, каб сустрэць вас у сваім адзінокім кутку.

— Нічога, не турбуйцеся, — сказала Анна Сцяпанаўна.

— Сядайце, калі ласка, — прадаўжаў фізрук. — Вось тут лаўка, — паказаў ён рукою. — Там яшчэ — табурэцікі. — І ён зноў пранікнёна паглядзеў на Алу.

— Мы-ж усе хочам, каб вы хутчэй паправіліся, — са смяшком сказала Валянціна Захараўна, бо адразу заўважыла, што на чалавеку не відно ніякіх слядоў хваробы, і затым ад яе вачэй не схавалася недапітая пляшка віна, наспех спушчаная пад ложак.

— Ды хутка ўжо ўстану, — запэўніваў фізрук, не ўлавіўшы тону Валянціны Захараўны. — Можа нават заўтра прыду ў школу. Праўда, быў сёння фельчар, дык раіў яшчэ паляжаць. Але не ляжыцца... Там-жа нікто не замяняе мяне?

— Крыху замянялі, сказала Анна Сцяпанаўна. — Аліна Усцінаўна зарадку праводзіла.

— Дзякую, — шчыра сказаў Анатолі. — А ў школе і цяпер холадна?

— Заўтра едзем па дровы, — паведаміла Анна Сцяпанаўна.

— Ага. Вось добра, добра!

Ала сядзела на лаўцы ў галавах хворага. Калі ён гаварыў з Валянцінай Захараўнай ці зварочваўся да загадчыка навучальнай часткі, яна неўпрыкметку паглядвала на яго пышныя шатэнавыя валасы, на прыгожы вузкаваты лоб, на невялікую, нібы жаночую, далонь.

— Дзе вы так прастудзіліся, Анатолі Ксена... Ксенафонтавіч? — нарэшце спытала яна, бо адчула, што далей маўчаць няёмка. А спытаўшыся, зачырванелася, таму што дрэнна вымавіла слова.

— І сам добра не ведаю, дзе я схапіў гэтую прастуду, — ахвотна адказаў хлопец, — хутчэй за ўсё, калі хадзіў з вучнямі за раку на лыжах.

Гаворачы, фізрук настойліва глядзеў на Алу, чакаў, вядома, і яе позірку, але дзяўчына не падымала вачэй і чырвань з яе твару не сходзіла доўга.

Толькі перад адыходам дзяўчына зноў падняла вочы і заўважыла, як Анатолі, мабыць забыўшыся, высунуў з-пад коўдры бяспалую руку і як адразу-ж схамянуўся, нібы спалохаўся нечага. Алу ўразіў гэты неапраўданы спалох і чамусьці шкада стала Анатоля. «Што-ж тут такога, што ў яго параненая рука, няўжо ён не ведае, што яна зусім не выклікае страху, што яна такая-ж прыгожая, як і другая... Вось можна было-б нават дакрануцца да гэтай рукі, можна нават пагладзіць...»

— Дык хутчэй ачуняйце, прыходзьце дапамагаць нам, — развітваючыся, сказала Анна Сцяпанаўна.

— Навучыце нас страляць, — дадала Валянціна Захараўна.

— Прыду, прыду, — развітальна памахваючы рукою, запэўніў фізрук. — Паслязаўтра абавязкова прыду!

Ісці дадому было крыху зручней, чым сюды: не так пякло ў твар, вецер біў у плечы. Валянціна Захараўна правяла Алу да самай кватэры і, супыніўшыся ў зацішку, з запалам загаварыла:

— Вы не чыталі Шота Руставелі? Ой, як задушэўна ў адным месцы напісана пра каханне! Хочаце, я прынясу вам томік.

— Прынясіце, Валянціна Захараўна, — з радасцю папрасіла дзяўчына. — Сёння прынясіце!

Вера прыехала з раёна позна ноччу. Ала яшчэ не клалася спаць і чытала кніжку. У плеценай качалцы ля печы, высадзіўшы з-пад шыняля поўныя ножкі, спакойна і незалежна адпачываў Уладзік.

— Чаму ты не спіш? — са здзіўленнем спытала Вера. — Колькі гадзін цяпер?

— Сапсаваўся гадзіннік у нашых, — стараючыся прыхаваць кніжку, паведаміла Ала, — б'е то тры разы, то два.

— А што ты чытаеш, пакажы?

— Дык так тут, — разгубілася Ала, — Валянціна Захараўна была ў нас дык пакінула.

— А, ведаю, — здагадалася Вера. І больш нічога не сказала наконт гэтага, пачала разбіраць пасцель.

— Я табе павячэраць дам, — прапанавала сястра.

— Не хочацца мне есці, — адмовілася Вера, — вельмі-ж спаць хачу. Уладзіка кармілa?

— Ён у Антаніны Глебаўны вячэраў, а дома толькі малака напіўся. Каб ты бачыла, як ён ужо бегаў сёння!

Вера хоць і ўсміхнулася, глянуўшы на качалку, але ўсмешка вышла нярадаснай, вусны ўздрыгнулі, як перад слязамі. Ала заўважыла гэта. Калі яны ляглі і Вера прытулілася да яе нахалоджаным целам, дзяўчына шэптам спытала:

— Што, Верка, усё гэта праўда наконт яго мамы?

— Праўда, Алачка. Спі. — А сама заплакала. — Учора пахавалі.

Дзяўчына стала шчыльней туліцца да сястры, каб хутчэй сагрэць яе, каб па-шчыраму раздзяліць усё гора.

— Якія ў цябе ногі халодныя, Верачка, — зноў зашаптала яна, мабыць для таго, каб перабіць сестрыны думкі. — Хаця-б ты не прастудзілася, трэба было хоць чаю гарачага напіцца.

— Нічога не здарыцца, — упэўнена зашаптала Вера. — Я моцная.

— А заўтра Анна Сцяпанаўна арганізоўвае суботнік.

— Які?

— Па нарыхтоўцы дроў для школы. І я паеду ў лес.

— Ты дома заставайся, Алачка, з Уладзікам. Я сама паеду.

— Твае ногі і ад гэтага да раніцы не адыйдуць.

— Адыйдуць. Каб толькі нам не заспаць.

— Я ўстану рана, снеданне прыгатую.

— І я ўстану.

— А што-ж мы адзенем?

— Я папрашу ватоўку ў Антаніны Глебаўны.

Пазасыналі сёстры толькі праз добрую гадзіну. Усталі, аднак, на досвітку, разам з Уладзікам, упыніліся, дапамаглі каля печы гаспадыні і амаль першымі прышлі на калгасны двор. Там была яшчэ толькі Анна Сцяпанаўна ды конюхі.

У другой палове дня да школьнага двара пад'ехаў цэлы абоз. Дровы на вазах, праўда, былі не самавітыя, бо не надта спорныя, у большасці галлё ды пруцце, але добрай лясной пароды: бяроза, дуб, клён, зрэдку алешына. Як скідалі ўсё гэта каля дрывотні, дык вышла гурба большая за дрывотню.

Любамір Пятровіч таксама ездзіў у лес. Грэўся там каля агню і скуры́ў нямала папярос, згорнутых з лісткоў «Блакнота агітатара». Цяпер ён, задаволены, пахаджваў, пашчыпваў застыглы падбародак і паўтараў кожнаму сустрэчнаму:

— Добра, добра, проста выдатна! Праўда? Убачыўшы Веру, ён сказаў:

— Добра, праўда, Вера Усцінаўна? А ведаеце што? Цяпер і вы можаце паліць гэтымі дровамі. У вас-жа школьная кватэра.

— Мы сабе прывязем, — холадна адказала Вера. Яна была ўся ў інеі, намёрзлыя валёнкі гучна рыпелі.

Выбегла паглядзець на дровы і дырэктарша. Убачыўшы тонкі бярэзнік, замілавана кіўнула галавою:

— І ўсё сухенечкае, усё лёгенечкае!..

Праз якую гадзіну са школьных камінoў валіў дым, як з сушні.

Дома першая навіна была пачута настаўніцамі ад суседкі Антаніны Глебаўны. Уладзік уласным ходам, трымаючыся за лаўку, самастойна дабраўся да мыцельніка і сапхнуў адтуль вялікую гліняную міску. Расказвала аб гэтым Глебаўна з вялікім захапленнем, як расказваюць аб самых гераічных учынках.

— Ён вам цяпер усю пасуду пераб'е, — весела заўважыла Анна Сцяпанаўна. Яна зайшла да Уладзіка з ляснымі падарункамі: прынесла яму дзве прыгожыя яловыя шышкі ды некалькі жалудоў, знойдзеных на незасыпанай снегам мясцінцы пад дубам. Малы спачатку баяўся дакрануцца да шышак, аднак вельмі хутка асмелеўся, узяў іх у рукі і, па-забіяцку смеючыся, пачаў стукаць іх адна аб другую. Паспрабаваў потым на смак, але не ўпадабаў. Убачыўшы жалуды, выпусціў з рук шышкі. Гэтыя цацкі і ў роце не былі горкімі.

Увечары, калі Уладзік заснуў, Вера і Ала селі пісаць планы заўтрашніх урокаў і правяраць сшыткі з дамашнімі работамі. Гадзіннік за сценкай прабіў дванаццаць гадзін, а праз некаторы час — дзесяць.

— Не ў той бок ідуць, — пажартавала Аліна, — задним ходам.

— Дзіўлюся, — зашаптала Вера, паказваючы галавой у бок сценкі, — як гэта Кірыла Фаміч такі здатны, гаспадарлівы чалавек, а не можа наладзіць гадзіннік.

— Не ўмее, думаеш што?

— Няхай-бы папрасіў каго.

Ала, скрывіўшыся, перакрэсліла рашэнне нейкага алгебраічнага прыклада, здзіўлена пакруціла галавой, затым ціха, суразмерна загаварыла, нібы чытаючы ў сшытку:

— Мне вось здаецца, калі хочаш ведаць, што і ў жыцці падчас бывае нешта падобнае. Ідзе, ідзе ўсё наперад, а потым — стоп — і паўзло назад, як гэты гадзіннік. Як усё хораша было, як жылі людзі, а цяпер?.. Што робіцца на свеце?

— Што-б ні было на свеце, — ціха запярэчыла Вера, — а хады назад, як ты гаворыш, быць не можа.

— А памятаеш? — Ала перадыхнула, нібы збіраючыся з думкамі. — Калі мы былі яшчэ малыя ды гулялі дома ва ўсякія гульні? Аня, уладзікава маці, заўсёды хацела быць у гэтых гульнях або каралевай, або такой гаспадыняй, у якой многа дзяцей, унукаў, праўнукаў. Калі мы куды хадзілі, то яна старалася зайсці далей за ўсіх, калі лазілі па дрэвах, то забіралася вышэй за ўсіх. Узлезе, бывала, на самы верх высокай хвоі і крычыць адтуль:

— Дзевачкі-і! Я месячык адсюль бачу, што сёння раненька зайшоў! Я ўсё адсюль бачу-у! Вунь мая мама пойла карове панясла! І горад вунь з таго боку відзён!

Каб не вайна, то...

— Вайна, канешне, не прыносіць нам шчасця, — падхапіла сястрыну думку Вера. — Тым больш такая вайна, калі вораг імкнецца праглынуць усё, усіх нас. Лёс многіх людзей перавярнуўся і не мала яшчэ будзе ўсялякіх ломак, выпрабаванняў, а жыццё наша пойдзе ў сваім напрамку. Тое, што ў нас ужо зроблена, не здолее знішчыць ніякая чорная сіла. І не стаім мы на месцы, як табе здалося. Прачытай у газетах: тое, што раней заводы давалі за месяц, цяпер даюць за тыдзень. А многія-ж з іх перавезены з іншых месц краіны, будаваліся, уладкоўваліся...

— А ў нашым калгасе палавіну кароў перарэзалі. Праходзяць сувязісты — карову, праходзяць сапёры — карову.

— Ну, тут сапраўды нешта не ладнае. Анна Сцяпанаўна будзе выносіць гэта на абмеркаванне партыйнай арганізацыі; павінен быць пэўны парадак. А калі паглядзець на ўсё, дык і тут людзі гатовы-б усім ахвяраваць, каб хоць чым-небудзь дапамагчы Чырвонай Арміі. Уборку правялі многа лепш і хутчэй, як у мінулым годзе. Мясцовыя людзі гавораць. А ў калгасе — адны жанчыны. І цяпер усе рвуцца да работы. Нават вось гэты наш сённяшні суботнік... Бачыла, колькі жанчын найшло на калгасны двор?! Каб па дзесяцера на сані, дык і то ўсіх не забраў-бы.

Заварушыўся ў качалцы Уладзік, незадаволена скрывіўся і заплакаў. Вера падыйшла да яго, папраўіла падушачку, пакалыхала.

— ...Вось расце маленькі, — прадаўжала яна, сеўшы зноў ля стала, — і нічога яшчэ не ведае пра вайну. Чаго мы не паспеем зрабіць, ён зробіць за нас.

Ала нічога не адказала, і ў пакоі доўга не парушалася спакойная, нібы застарэлая цішыня. Ледзь чутна патрэскваючы, гарэла на стале лямпа. Аганёк у ёй быў невялічкі, бо газы папмногу не давалі ў сельмагу. Недзе ў запечку пашкрэбваў шашаль, за сценкай імкліва і цвёрда ішоў гадзіннік: дак-так, дак-так, дак-так.

Дзяўчына загаварыла зноў, калі Вера ўжо напісала ўсе планы і ўзялася за праверку сшыткаў. Загаварыла, відаць, не для спрэчкі,



а проста так, каб падзяліцца з сястрою сваімі думкамі.

— Вера, знаеш што?

— Ну?

— Я вось неяк падумала: сядзім мы з табой, у сшытках корпаемся. Потым прыходзім у школу, гаворым нешта пасінелым ад холаду вучням, а яны не слухаюць... Ці тая гэта работа ў ваенны час, калі ўсе ваююць, даюць высокую выпрацоўку, сядзяць на стрэхах дамоў і ўласнымі рукамі скідваюць адтуль тэрміткі, мруць і пакутуюць у блакадзе? Анатолі Ксенафонтавіч, дык ён хоць страляць дзяцей вучыць, а мы...

Ала зноў не закончыла сказ, спадзеючыся, што Веры ўжо і так усё зразумела.

— Што-ж ты зробіш? — адклаўшы адзін з сшыткаў, разважліва сказала Вера. — Я таксама не надта задаволена сваёй работай. І мне-б хацелася чаго-небудзь больш актыўнага, рамантычнага. Многіх людзей з тылу цягне на перадавую лінію, на фронт, туды, дзе кожная хвіліна напоўнена рашучасцю, найвялікшым напружаннем сілы, розуму, волі. Нават наш Любамір Пятровіч і той, кажуць, часта грозіць сваёй «старой», што кіне ўсё і пойдзе на фронт. Але-ж ці можна ўсіх паслаць на фронт? Трэба-ж некаму заставацца і ў тылу. Я думаю, што ўсё тут залежыць ад таго, як працуеш. Калі ўсю сябе аддаваць працы, нават усякай працы, абы толькі карыснай Радзіме, то не будзе вялікага болю на душы.

— Дык хіба я не стараюся, Вера?

— Стараешся, але ты яшчэ не ўзяла глыбока ў душу сваю працу.

— Як гэта?

— Ды так, што ў цябе іншы раз бывае ўрок проста для ўрока. А ты больш аб дзецях думай, ды аб іх бацьках. Углядайся, прывыкай да кожнага вучня, сачы, як ён займаецца, як расце на тваіх вачах. Думай аб тым, як свецяцца вочы бацькоў, калі твой вучань прыносіць дадому добрую адзнаку, пастаўленую тваёю рукой.

Аліна спачатку разгублена глядзела на сястру, а потым апусціла вочы, нібы адчуўшы за сабою нейкую непапраўную віну. Некалькі хвілін маўчала і раптам зноў запыталася, але ўжо зусім аб другім:

— Скажы, Вера, а калі-б табе давялося скідваць бомбы з даху, ты змагла-б?

Веры не зусім спадабалася, што сястра не ўступіла з ёй у спрэчку, нават не паспрабавала апраўдаць сябе, аднак заўвагі аб гэтым не зрабіла.

— Калі-б давялося, змагла-б, — коратка адказала яна.

— А мне здаецца, што я не змагла-б. Рвуся, чакаю выпадку ўчыніць што-небудзь гераічнае, а душой адчуваю, што не хопіць у мяне на гэта сілы, вытрымкі. А табе веру: у цябе ўсяго хопіць.

— Гэта я змагла-б, — заўважыла Вера, — а наконт усяго цяжка сказаць. Ты-ж ведаеш, што я не такая ўжо адважная. Ноччу і цяпер баюся хадзіць адна.

— А я, помніш? Авечкі ў плоце была спужалася, — са смехам дакарала сябе Ала.

— Ну, гэта мы ўжо трошкі не аб тым.

— Чаму не аб тым? — не згадзілася Ала. — Мужны чалавек нічога не баіцца. Вось Анатолі Ксенафонтавіч расказваў, што яшчэ малым ён хадзіў упоцемку на могілкі, укручваўся там у белую посцілку і бегаў паміж помнікаў і магільных насыпаў. А на фронце яго часта ў разведку пасылалі, у тыл ворага. Адзін хадзіў. Ой, як пачне расказваць, дык суткі будзеш слухаць. Пагаварыць з ім, усё роўна, што самому на фронце пабываць.

— Мужнасць не толькі ад смеласці, — лёгка заўважыла Вера.

Аліна не запярэчыла, і цяпер вышаў ужо зусім доўгі перапынак у размове. Сёстры працавалі моўчкі больш гадзіны. Вера адгортвала і адгортвала лісткі ў сшытках. Пасля некаторых лісткоў яе твар ажыўляўся, пасля некаторых хмурнеў. І нельга было даведацца, колькі цяпер часу: свайго гадзінніка ў пакоі не было, а суседскі працягваў бессаромна хлусіць.

Аліна зрабіла ўсё раней сястры. Па ўроках ёй больш не было чаго рабіць, аднак яна яшчэ сядзела ля стала і нешта старанна вышуквала ў сшытках. Гэта, бадай, для таго, каб



падтрымаць кампанію Веры. Потым яна паспешлівым рухам склала сшыткі і ўстала, падыйшла да ложка. Адтуль нерашуча пагледзела на Веру, нібы хочучы спытаць: ужо разбіраць пасцель, ці яшчэ рана? Затым, мабыць, сама вырашыла, што яшчэ рана, і дастала з-пад падушкі кніжку.

Як пачала чытаць, адразу нібы застыгла, ні на адзін момант не падымалася яе галава, здавалася нават, што не маргалі павекі. Сядзела яна воддаль ад стала, каб пры неабходнасці можна было пакалыхаць малога: святло лямпы ледзь даходзіла туды. Заўважыўшы гэта, Вера паставіла лямпу на самы край стала, кніжка і галава Алы апынуліся ў жаўтаватым кружку святла, аднак усё роўна, каб чытаць, то трэба было мець вельмі добрыя вочы.

— Сядай бліжэй, — прапанавала Вера, — там-жа табе цёмна.

— Га? — дзяўчына не адразу адарвалася ад кніжкі.

«Не варта-б ёй перашкаджаць, каб не так позна, — падумала Вера. — Няхай-бы сабе чытала. Нешта несуладнае ў яе на душы, калі так пацягнулася да гэтай кніжкі».

Праверыўшы ўсе сшыткі, яна таксама перанесла свой зэдлік бліжэй да печы, моўчкі села і прытулілася спіной да цяпла. Аліна згарнула кніжку, пакінуўшы паміж лістоў свой гладзенькі палец.

— Хочаш спаць? — спытала яна ў сястры.

— Не, — адказала Вера. — Так, проста прамерзла крыху. Цікава чытаецца?

— Вельмі цікава. Забываешся аб усім на свеце. І сон прападае, і ўсё... Ты не чытала гэтай кніжкі?

— Чытала некалі... Яшчэ ў інстытуце.

Ала задумалася, яе доўгі невясёлы позірк спыніўся на цёмным шкле акна застаўленага знадворку акяніцамі. Кніжка ляжала на каленях, пажоўклыя ад часу карашкі амаль зліваліся з карычневым пераплётам. На кніжцы бялелі аліны рукі, яны амалоджвалі, асвяжалі кніжку.

— Вера! — зусім ціха, каб не разбудзіць Уладзіка, але з асабліва глыбокім пачуццём звярнулася дзяўчына да сястры. — Скажы, от калі ты першы раз убачыла Андрэя... — пальцы дзяўчыны нервова задрыжэлі, крыху задрыжэла і кніжка, — ты як... ён як?.. Ён адразу спадабаўся табе?

— Не, не адразу, — проста адказала Вера.

— А як? Ты гавары, Вера, раскажы мне пра гэта.

— Спачатку ён зусім не спадабаўся мне... Праўда, цяпер не хочацца гэтаму верыць... — Старэйшая сястра нячутна ўздыхнула і склала на грудзях рукі. — Цяпер здаецца, што мы з самых малых год былі блізкімі. Але-ж калі пачнеш перадумваць усё наша мінулае... Мне часта гэта ўспамінаецца... Больш поўгода я глядзела на Андрэя проста як на старэйшага таварыша. Калі-б хто сказаў тады, што ён стане такім дарагім для мяне, ніколі не паверыла-б. А потым усё прышло неяк само сабою...

— Цэлага поўгода!.. — Ала маўкліва здзівілася. — На працягу цэлага поўгода кожны дзень бачыліся, кожны дзень размаўлялі...

— Размаўлялі вельмі рэдка, — удакладніла Вера.

— Але-ж, што я гавару? — раптам схамянулася Ала, — хіба я сёння нарадзілася, хіба не сустракала людзей? На першым курсе колькі было студэнтаў... Ходзім, бывала, гуляем разам, а як з вачэй, так і з памяці. А тут...

Вера не пыталася, што тут, бачыла, што лішнім будзе цяпер усякае пытанне. Збярэцца дзяўчына з сіламі, раскажа сама, а не раскажа, дык і так усё ясна. Кахае яна Анатоля і кахае, мабыць, даўно. Аб гэтым здагадвалася Вера і раней. Можа і моцна кахае, магчыма, і пакутуе ад кахання, бо далёка, далёка не заўсёды прыносіць шчасце гэтае ўсім знаёмае і ў кожнага рознае пачуццё.

— Доўга я ўсё не верыла, — павярнуўшыся да сястры, прадаўжала Аліна. — Убачыла першы раз, нешта скалanулася ў грудзях.. Здалося, што знаёмы ён мне, што некалі мы бачыліся ў нейкіх незвычайных, але вельмі прыгожых абставінах. Ледзь дачакалася канца заняткаў у той дзень, каб застацца адной ды перабраць усё ў памяці. Ледзь не да самага вечара хадзіла каля рэчкі, усё ўспамінала, успамінала, ды нічога не ўспомніла. Дадумалася толькі да таго, што стала чакаць яго там, каля рэчкі. Няхай-бы, здавалася, усплыло цуда перада мною, няхай-бы з'явіўся тут Анатолі хоць на адну хвіліну. Глянуць-бы на яго яшчэ хоць адзін раз і пасля гэтага вырашыць ужо канчаткова, што гэта за чалавек, знаёмы ці незнаёмы, незвычайны ці можа зусім звычайны, можа гэта проста здалося, што ён не такі, як усе.

І што ты думаеш, Верка?.. Пачало змяркацца, — бачу, ідзе берагам чалавек. Ідзе проста да мяне. Углядаюся, — ён, Анатолі! Я бягом уцякаць. І сама не ведаю, чаго я тады спалохалася, чаго пабегла. Бягу, не аглядаюся, а сама чакаю, што ён павінен мяне паклікаць ці неяк супыніць. І от ужо горка, ужо блізка плот нашага агароду, а ніхто мяне не кліча, ніхто не гоніцца за мною. Тады я прыпынілася, глянула на бераг: ідзе сабе чалавек сваёю дарогаю і нават не глядзіць у мой бок. Адна рука ў кішэні, у другой нейкая доўгая зяліна. Ідзе і памахвае зялінаю, углядаецца ў раку. Стала я тады зноў спускацца ўніз. Сышла на бераг, чалавек аглянуўся на мяне. Раптам нешта спала з маіх вачэй: убачыла, што гэта зусім не Анатолі, што чалавек ні на адну кроплю не падобны на Анатоля. Забалела пад сэрцам і да таго стала крыўдна і злосна на гэтага чалавека, што я заплакала. Потым яшчэ доўга хадзіла каля рэчкі. Пакуль высахлі слёзы.

Дома смешна стала з самой сябе і дзіўна: як усё гэта вышла. Пачала гуляць з Уладзікам, і ўсё неяк адхлынула. Толькі вельмі-ж

доўга цягнуўся вечар, доўга цягнулася бяссонная ноч. А назаўтра раніца выдалася мокрая і халодная. Помню, ты гаварыла, што аж у школу ісці не хочацца, а я не магла дачакацца той хвіліны, калі выйду з дому. Ні дождж гэты быў мне неўпрыкметку, ні холад. Бежкам дабегла да школы, а як увайшла ў калідор, нейкі страх напаў на мяне, гатова была бегчы назад ці хавацца ў які-небудзь клас.

Пусцілася па калідоры: яшчэ толькі вучні пачыналі збірацца. Вітаюцца са мною, а я бягу, нібы ўрок ужо даўно пачаўся. Дабегла да крайняга акна, пастаяла трошкі ды назад, не ведаю, куды дзецца, як дачакацца званка. І, бегучы назад, заўважыла, што дзверы ў настаўніцкую прыадчынены. Не памятаю ўжо, як спынілася, глянула ў шчылінку... Затым да самага званка сядзела ў сваім класе... Было страшэнна сорамна. Мне здалося, што ён убачыў мяне. Ён стаяў ля стала і спакойна, абедзьвума рукамі круціў папяросу. У настаўніцкай яшчэ нікога не было. Калі я глянула ў шчыліну, ён, мне здалося, нечага спалохаўся, паспешна сунуў руку ў кішэню, і махорка яго рассыпалася. Ён паказаўся мне зусім не такім, якім быў учора. Стаяў неяк ссутулены, глядзеў на махорку і чагосьці ўсміхаўся. Усмешка была невясёлая і скрыўленая, быццам ён здзекаваўся над некім.

У той дзень я старалася больш не сустракаць яго. Ужо зусім не здавалася, што ён знаёмы мне. Усё ў ім было чужое: і твар, і постаць, і параненая рука. І мне стала радасна, што так хутка мінуліся мае пакуты. Мільгала ў памяці толькі ўчарашняе. Не пайшла я ў той дзень на рэчку пасля заняткаў, і ўвесь той вечар не думала пра Анатоля. Раніцай назаўтра пайшла ў школу разам з табой, хацела адразу ўключыцца ў работу, забыць пра ўсё. Перад самай школай зноў заварушылася нейкая баязлівасць, але ў гэты момант, помню, ты нешта спытала пра ўрокі, і я перамагла сябе. На ўроку ўсё крышылася крэйда, калі я пісала на дошцы прыклады, але Тапаркоў Вадзя сядзеў ціха і слухаў. Гэта першы раз ён у мяне сядзеў ціха, не ведаю, як у іншых настаўнікаў.

Пасля заняткаў не пайшла ў настаўніцкую, не пайшла наўмысля, з-за яго. Засталася ў класе. Убег Тапаркоў і сказаў, што не будзе фізкультуры, бо Анатолі Ксенафонтавіч не прышоў. І мне стала сумна. Так сумна, што аж пачарнела ўсё навокал. Прышлося замяняць фізкультуру арыфметыкай. Стаяла ля дошкі, нешта гаварыла, нешта пісала, а сама ўсё думала, чаму ён не прышоў. Злавалася на сябе, а думаць не пакідала. Тапаркоў пачаў перашэптвацца з хлапчукамі і, калі ў мяне неяк незнарок выпала з рукі крэйда, гучна зарагатаў. Я накінулася на яго і ледзь не выгнала з класа.

Так я змагалася з сабой некалькі дзён, а потым пачала заходзіць у настаўніцкую. Анатоль кожны раз чым-небудзь дагаджаў мне: то падаваў крэсла, то ўступаў месца на канапе. Потым адной рукой даставаў з верхняй кішэні гатовую папяросу і выходзіў у калідор курыць. Пакуль яго не было ў настаўніцкай, я заўсёды баялася званка на ўрок...

Тут Ала перадыхнула і паглядзела на сястру няўпэўнена і сарамліва. Калі-ж убачыла, што на верыным твары не было і ценю якой-небудзь пагарды ці насмешкі, у яе выразе не было нават здзіўлення, у вачах дзяўчыны з'явілася шчырая надзея на добрую параду ці хоць на сяброўскае спачуванне. А Вера яшчэ доўга маўчала. Праз адзінае, хоць і закрытае акяніцамі акно далятаў у пакойчык злосны, свісцячы гул ветру. Што далей, то ён усё больш і больш зласнеў. Відаць, з поўначы пачалася мяцель, а цяпер яна рабілася страшнай і бязлітаснай, калі нават у агародзе, у такім зацішным месцы білася і шаргацела аб вуглы дома. Шчыліна ў акне паміж акяніцамі ўжо даўно стала белай. Марозны снег забіваўся ў рассохлыя за лета шчылінкі паміж дошкамі акяніц, засыпаў адтулінкі зверху і знізу. Вецер калаціў акяніцы, а снег сыпаўся зверху, утвараючы перавалы на перакладзінах рам. Вера слухала гэты жахлівы свіст і гул і думала, што цяпер робіцца дзе-небудзь у гале, на адкрытым месцы, як цяпер трываюць тыя людзі, якім даводзіцца ў гэтую ноч дзе-небудзь ісці, стаяць на пасту або ляжаць на снягу, падпільноўваючы ворага. Як можна сагрэцца ў такі віскуцень, як трымаць у руках зброю, як дыхаць.

Думалася аб тысячах, мільёнах такіх людзей, а перад вачыма стаяў адзін Андрэй у такім-жа шынялі, якім вось цяпер накрыты Уладзік, у заснежанай шапцы, у нейкім абутку, толькі цяжка было ўявіць у якім, бо ні разу не бачыла Вера Андрэя ў зімовай форме.

І Вера пачала гаварыць аб сабе. Яна пакахала не адразу, не з першага позірку, як кажуць у людзях. І пакахала, бадай, не так, як Ала. Андрэй уваходзіў у яе душу паступова і, здавалася, зусім, зусім непрыкметна. Увосень першага года вучобы ён быў для Веры такім-жа студэнтам, як і ўсе. Пазней — пры выпадку з ім цікавей было пагаварыць, як з іншымі. І толькі ранняй вясною надышоў адзін вечар, які застанецца ў памяці, мабыць, на ўсё жыццё. Пасля заняткаў Андрэй сказаў, што наведаецца ў інтэрнат. Веру не здзівілі гэтыя словы: бываў Андрэй у інтэрнаце і раней. Ідучы з інстытута, яна ўяўляла, што сёння ў яе будзе так, як было і ў некаторыя іншыя дні: пасля позняга дамашняга абеду, які можна было-б лічыць і вячэрай, некалькі гадзін работа па вучэбнай праграме, а потым — лёгенькі стук у дзверы, зойдзе Андрэй і пойдуць яны на прагулку аж да таго часу, пакуль не з'явіцца на небе акрайчык месяца-маладзіка, пакуль не ляжа на мяккую, свежую траву такая раса, што здолее прамачыць балеткі. «Калі прыдзе, то пагуляем, — думала тады Вера, — а калі не прыдзе, то больш пасяджу, больш пачытаю, а то экзамены ўжо блізка, а чытаць яшчэ так многа, што аж страшна падумаць».

І вось надышоў звычны час. Надышоў і стаў пакрысе мінацца, а ў дзверы ніхто не стукаў. Вера сядзела ля свайго ложка з кніжкай у руках. Сядзела абутая, у лепшым сваім плацці. Увесь час яе цягнула прылегчы, ды шкада было мяць гэтае плацце. Чытала і кожную хвіліну лавіла сябе на тым, што чакае знаёмага стуку. Што далей, то ўсё больш гэтае чаканне рабілася нясцерпным. Радкі скакалі ў вачах, іх трэба было лавіць, перачытваць, каб зразумець сэнс.

Нарэшце нехта пастукаў. Вера ўскочыла, ледзь не выпусціла з рук кніжку. Зайшоў нізенькі хлопец з доўгімі запушчанымі стрыжкай валасамі, старшыня ячэйкі асоавіяхіма.

— Членскія ўзносы будзеш плаціць?

— Няма грошай, — раздражнёна сказала Вера.

— Ну, якія там грошы? Хочаш, пазычу?

— Не трэба. Сама заплачу. — Вера падняла краёк падушкі і дастала адтуль старэнькую, з рукавіцу велічынёю сумку.

— Чаго ты сядзіш адна ў пакоі? — спытаў хлопец. — Усе на валейбольную пляцоўку пайшлі.

— Мне і тут добра.



Хлапец затрымліваўся, наравіў усчаць доўгую гаворку, а Веру гэта злавала, бо з моманту на момант мог пачуцца бязмежна чаканы стук.

Старшыня ячэйкі асоавіяхіма, нарэшце, пайшоў, а Вера зноў села чытаць, дзверы перад гэтым закрыла на ключ.

«...Думала так, — гаварыла яна цяпер Але, — будзе стукаць, не адчыню, няхай ідзе, куды хоча, а заўтра скажу, калі спытае, што спала або хадзіла куды-небудзь гуляць».

Аднак, вельмі нядоўга дзверы былі замкнутымі. Хутка Вера выйшла на вуліцу, ёй падумалася, што Андрэя нехта тут затрымаў, а можа дзяўчаты сказалі жартам, што яе няма дома. Свежым цяплом дыхнула ў твар, у інтэрнацкім пакоі было халадней. Студэнты ў рознакаляровых майках непадалёк гулялі ў валейбол. Некаторыя там-жа стаялі, відаць, чакаючы сваёй чаргі пабегаць за мячом, некаторыя сядзелі на прымятай і ўжо добра запыленай траве. З левага боку, з вішнёвай вуліцы даносілася неспакойнае шчабятанне рознага птаства, якое аблюбоўвала сабе там утульнае седала.

Андрэя нідзе не было...

Увесь вечар прайшоў сумна, пакутліва і бескарысна. Не прачытала Вера больш ніводнай старонкі. Ноччу доўга не магла заснуць. Часамі ўяўлялася, што Андрэй не прышоў наўмысля, што яму нецікава сюды хадзіць, і раптам такая жудасная здагадка пачынала свідраваць нутро, што станавілася да млявасці душна, цягнула ўстаць і выйсці з пакоя.

... Патухлі на вуліцы ліхтары, і ў пакоі стала так цёмна, што Вера аж сумелася: ніколі ёй не даводзілася наглядаць такія з'явы, заўсёды ў гэты час быў у яе самы моцны, салодкі сон. Заплюшчыла вочы, яшчэ раз паспрабавала забыцца аб усім, супакоіцца і заснуць. Прайшла хвіліна, і вочы нібы самі сабой раскрыліся. У пакоі ўжо было не так цёмна, у шыбы вокан асцярожненька паглядвала світанне...

— Я канчаткова зразумела, — расказвала далей Вера, што пакахала Андрэя, пакахала моцна, шчыра і на ўсё жыццё. Нялёгка было мне пакахаць, а калі пакахала, то ўжо назаўсёды.

— А ці былі ў цябе, Вера, розныя нелады, сумненні, — усхваляваным голасам спытала Аліна, — ці перажывала ты ад розных, розных дум? Разумееш?

— Усяго было, — ціха адказала Вера, — сумнявалася я, падчас рознае думала, пакутавала, але ні на адну хвіліну не пакідала кахаць.

— Мне ўвесь час цяжка, — прызналася Ала. — Адзін дзень адчуваю, што ён блізка пры мне, тады бярэ нейкі спалох і мучыць сумленне, быццам не ў той бок іду, другі дзень адчуваю, што ён далёка ад мяне, тады месца не знаходжу ад суму. За што ні вазьмуся, усё робіцца нямілым, сяду чытаць што-небудзь, між радкоў бачу яго.

— Ты не верыш яму? — спагадліва дакрануўшыся сястрынай рукі, спытала Вера.

— Сама не ведаю, — ледзь не з роспачу загаварыла дзяўчына. — Іншы раз нібы веру, іншы раз... Не, не! Хутчэй за ўсё, — не веру, хутчэй за ўсё!.. А хачу верыць, хачу бачыць яго самым лепшым чалавекам на свеце! Разумееш?

— Ён ведае пра твае пачуцці?

Дзяўчына паклала кніжку на астылы прыпечак, нахілілася да сястры.

— Мы ні разу не сустракаліся адны, ні разу не размаўлялі, як блізкія людзі, але мне здаецца, што ён усё ведае, бачыць.

— Магчыма, што і яму цяжка? Як ты думаеш? Мне цяпер ужо добра вядома, што ў тыя часы, калі я перажывала, Андрэю таксама было нялёгка. Нямала горкіх часін прайшло, пакуль усміхнулася шчасце, затое яно стала сапраўдным і непахісным. Андрэй растаў перада мною навек маім. Даўно мы не разам, але і цяпер я ўяўляю яго толькі такім.

— Ты шчаслівая, шчаслівая, Верачка!.. — Ала па-дзіцячаму абхапіла верыну шыю, прытулілася шчакою да пляча. — Ідзі ўжо, кладзіся адпачываць, а я яшчэ трошкі пачытаю...



Я. МАЗО

# ЯЕ ВЯЛІКАЯ РАДЗІМА

Паравоз даў гудок. Бацька пацалаваў Аню, сказаў:

— Будзь і там малайчынай. Добра працуй, вучыся, аб астатнім не турбуйся: Радзіма аб усім паклапоціцца.

Аня зайшла ў вагон. Маці, стоячы на пероне, махала хусцінкай. І вось перон з праважаючымі, станцыйныя будынкі паволі паплылі міма вокан вагона.

— Паехалі, — сказаў хтосьці, і толькі тады Аня зразумела: пачынаецца новае жыццё. Яна адыйшла ад акна, села на лаўку.

У купэ ехала моладзь: усе, як і Аня, на цалінныя землі ў Казахстан. За гэтыя дні, што папярэднічалі зборам, усе моцна пасябравалі, і цяпер адчувалася — едзе адна сям'я. Успаміналі пра горад, пра сяброў, кпілі над тымі, хто крыху засумаваў: можна яшчэ вярнуцца, ад'ехалі недалёка.

Вася Скварцоў, жвавы, непаседлівы юнак, хадзіў па вагону, знаёміўся з пасажырамі. Выпрасіў у некага свежую газету.

— Пачытай, Вася, — папрасілі сябры.

Вася прымасціўся ля акна, разгарнуў газету. Гарады і сёлы праводзілі ў Казахстан сваіх пасланцоў. Шахцёры здабылі звышпланавы вугаль. Домна дала першы чыгун. Аня ўважліва слухала пра перамогі савецкіх людзей, і ёй хацелася хутчэй даехаць туды, дзе ляжаць некранутымі тысячы гектараў урадлівай зямлі.

А Вася ўжо чытаў пра падзеі за мяжой:

«Падзеі апошніх месяцаў паказваюць, — чытаў Вася, — што германскі мілітарызм зноў адраджаецца. Прапаганда аншлюса, стварэнне розных мілітарысцкіх арганізацый, якія кіруюцца бонскімі рэваншыстамі, прымаюць шырокі размах»...

Аня слухала спакойны, роўны голас юнака, а ўспаміны з нястрымнай сілай неслі яе ў мінулае.

... 1946 год. Бад-Айблінг — невялікі нямецкі гарадок, куды паспешліва прывезлі групу дзяцей з дзіцячага лагера Лукенвальдэ. Не паспелі дзеці адпачыць, як ім паведамілі: «Заўтра ледзь золак пераязджаць».

— Пакляніся, што нікому не скажаш, — шэптам гаварыла ноччу сваёй сяброўцы Луізе дзевяціґадовая Анэт.

— Клянуся ўсімі святымі, няхай мяне пакарае...

— Хопіць! Слухай, — перапыніла яе Анэт. — Нас ад некага хаваюць. Ты ведаеш, дзе Бразілія?

— Не чула нават.

— Я таксама. Учора я падслухала, як фрау Шмютке і старая качарга (так звалі дзеці наглядчыка) гаварылі, што нас адправяць у Бразілію. Давай уцячэм.

— Што ты, Анэт. Нас пасадзяць у карцар. Я баюся.

— А я ўцяку. Толькі ні слова.

У пакой увайшла фрау Шмютке. Дзяўчынкі замоўклі, прыкінуліся, што спяць. Як толькі фрау пайшла і ўсё сціхла, Анэт ціхенька апранулася і выйшла на двор.

Амерыканскі салдат тупаў на месцы, свістаў. Ішоў дождж. Было холадна. Выйсці на вуліцу было немагчыма. Анэт дабегла да віннага склепа, адчыніла дзверы. Запахла кіслым вінам, плесняй. Недзе далёка ўнізе пішчалі пацукі. Але Бразілія здавалася дзяўчынцы страшнейшай за гэты склеп. Анэт сыйшла ўніз, прыціснулася да сцяны. Было вельмі страшна. Тады яна балюча ўкусіла сябе за руку. Страх на хвіліну прайшоў.

Раптам яна пачула голас наглядчыка.

— Праклятая дзяўчынка, — крычаў ён. — Куды яна схавалася? Гэтыя амерыканскія салдаты разявы, а ты адказвай за ўсё!

Зарыпелі дзверы склепа. На парозе, засланяючы перадранішняе світанне, паказаўся гарбаты цень.

— Сюды яна не асмелілася-б схавацца. Пэўна, уцякла ў горад.

Нехта, каверкаючы нямецкую мову, закрычаў:

— К чорту! Трэба спяшацца. Я не магу чакаць.

«Амерыканцы», — падумала Анэт.

На двары заплакала дзяўчынка. Загудзеў матор. Потым усё сціхла. Анэт пачала падымацца па прыступках. Яе спыніў голас.

— Паверце майму слову, пан палкоўнік, тут нікога няма і не было. У вас няправільныя звесткі, — гэта гаварыў дырэктар дзіцячага лагера Лукенвальдэ. Чаму ён застаўся тут? Анэт дрыжэла. Ад дырэктара не схаваешся.

— У мяне ёсць дакладныя даныя, — адказаў незнаёмы голас, — што ўчора раніцай сюды была прывезена група рускіх дзяцей з дзіцячага лагера Лукенвальдэ. Дзе гэтыя дзеці?

— Я ўжо казаў пану палкоўніку: тут нікога не было.

«Нейкіх рускіх дзяцей шукаюць, — падумала Анэт, — але-ж іх не было ў Лукенвальдэ».

— Цяжка паверыць вашаму слову, — па-руску сказаў палкоўнік.

Анэт не зразумела, што сказаў палкоўнік, але раптам перад ёю ўзнік малюнак. Узлесак. Маленькія ложкі. Яна ляжыць у ім і не спіць. Над ёй схілілася ў белым халаце жанчына. Яна нешта гаворыць ёй і ўсміхаецца. Можа гэта быў сон? Так, пэўна сон. Толькі што яна гаварыла, гэтая добрая жанчына? Нейкія незразумелыя словы.

А палкоўнік зноў гаварыў па-нямецку:

— І ўсё-ж вы адкажыце, дзе дзеці?

— Пан палкоўнік патрабуе немагчымага. Ніякіх дзяцей тут няма.

— Няпраўда! — крыкнула Анэт і выбегла са склепу.

— Марш адсюль! Я табе пакажу. — Дырэктар схапіў Анэт за руку.

— Прабачце, пан дырэктар, — далікатна, але настойліва сказаў палкоўнік. — Я хачу пагаварыць з гэтай дзяўчынкай.

— Як цябе завуць, дзяўчынка?

І зноў тое-ж слова, што гаварыла ёй у сне жанчына ў белым халаце. Але пра што пытае палкоўнік, яна не разумее.

— Ві гайст ду? — перапытвае палкоўнік.

— Анэт, — адказвае дзяўчынка.

— Аня Сініца. Так тваё прозвішча?

— Не, я Анэт Бехур.

— А маму сваю памятаеш?

— Мама загінула.

— А ты паглядзі на фотаздымак.

Палкоўнік дастаў з партфеля фотаздымак. На дзяўчынку глянулі ласкавыя вочы незнаёмай жанчыны. Анэт пакруціла галавой. Не, жанчына гэтая ёй не знаёма, хоць яна вельмі падобна на тую, што бачыла ў сне.

— Дарэмна стараецеся, пан палкоўнік, — уступіў у размову амерыканскі афіцэр. — Дзіцё ніколі не назаве чужую жанчыну сваёй маці.

— Пайшлі, Бехур, — знарок падкрэсліваючы прозвішча, сказаў дырэктар і пацягнуў яе за руку. — Цябе чакае фрау Шмютке.

— Не пайду! — з усёй сілай вырвала руку Анэт. — Вы мяне зноў пасадзіце ў карцар!

Амерыканскі афіцэр усміхаўся.

— Пан афіцэр, — звярнуўся палкоўнік да амерыканца, — паглядзіце, ці няма ў гэтай дзяўчынкі за правым вухам чорнай радзімкі.

Амерыканец пагардліва паціснуў плячыма.

Тады палкоўнік падыйшоў да Анэт, адхіліў валасы, і ўсе ўбачылі чорную маленькую радзімку.

— Гэтая дзяўчынка пойдзе са мной, — цвёрда сказаў ён. — На гэта мяне ўпаўнаважыў савецкі ўрад.

— І ўсё-ж Анэт Бехур — дзяўчынка нямецкага паходжання, — спрабаваў даказваць

дырэктар. Але Анэт бачыла, ён цяпер баіцца чалавека з чырвонай зоркай на шапцы.

— Цяпер ты не Анэт, а Аня Сініца. Цябе чакаюць і мама, і тата, — па дарозе гаварыў ёй палкоўнік. — Што зрабілі з дзіцем! Ад роднай мовы хацелі адвучыць. Не выйшла, панове рабаўладальнікі!

... Поезд спыніўся на невялікай станцыі. Па перону ішла жанчына ў форме чыгуначніка: чырвоная шапка, чорнае паліто, у руках два сцяжкі.

— Колькі станцый прамільгнула перад вачыма па дарозе з Германіі—думала Аня. Але на ўсё жыццё запомнілася тая станцыя, праехаўшы якую, палкоўнік, дзядзька Аляксандр, сказаў:

— Вось мы і дома.

— Як дома? — здзівілася Аня, бо яна сядзела ў купэ вагона.

— Мы пераехалі дзяржаўную граніцу. Бачыш, палі, бярозкі! Гэта твая Радзіма.

Яшчэ праз дзень яны пад'ехалі да вялікага горада. На пероне стаяла многа людзей. Не паспела Аня выйсці з вагона, як да яе падбеглі людзі з кветкамі.

— Анечка, дзяўчынка мая, — крыкнула нейкая жанчына.

Аня паглядзела на яе. Не, тады быў не сон: насустрач ёй працягвала рукі тая самая жанчына, што некалі схілялася над яе ложкам. Толькі цяпер яна не ў халаце.

— Дачушка мая, — прытуліла Аню жанчына. Дзяўчынка даверліва абняла жанчыну і, вымаўляючы слова на нямецкі лад, сказала:

— Ма-ма.

Побач стаяў высокі сівы мужчына і нешта гаварыў ёй.

«Фатэр», — падумала Аня і, стараючыся вымавіць вывучаныя за дарогу словы, сказала:

— Та-та.

Затым яны ехалі на адкрытай легкавой машыне.

Назаўтра Ані паказалі газету. Яна ўбачыла сябе на прыступках вагона, ззаду яе стаяў палкоўнік Васільеў, дзядзька Аляксандр, які вырataваў яе з палону. Ніжэй ішла заметка. Гэтую газету бацька захаваў на памяць. Праз некалькі год, калі Аня добра вывучыла сваю родную мову, яна прачытала, што пісалі пра яе.

«Аня Сініца вярнулася на радзіму.

Гэта было ў чэрвені 1941 года. Маленькая Анечка выехала разам з дзіцячым садам на дачу. Нечакана пачалася вайна. Дзяцей не паспелі эвакуіраваць, і фашысты іх вывезлі ў Германію. Прайшло пяць год, і вось Аня зноў у сям'і, зноў з бацькамі».

«А дзе-ж мая сяброўка Ліза?—Так цяпер Аня называла маленькую Луізу, бо была ўпэўнена: Луіза таксама руская.—Мусіць, вывезлі ў Бразілію. Пайшла-б тады са мной — і была-б цяпер шчаслівая...»

— Чаго задумалася, Аня? — запытаўся Васіль Скварцоў. — Сумуеш?

— Не. Успомнілася мінулае...

У рамесніцкім вучылішчы, дзе Аня вучылася пасля заканчэння сямігодкі, Васіль Скварцоў быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Аднойчы ён падыйшоў да Ані.

— Калі думаеш уступаць у камсамол?

— А прымуць мяне?

— Думаю, што прымуць. Пішы заяву, на наступным тыдні разбярэм.

— Я-ж не паспею падрыхтавацца, — запярэчыла Аня.

— Калі хочаш, дапамагу, — адказаў Вася і пачырванеў.

Аня даўно прыкмячала, што Вася ў размове з ёй бянтэжыцца, чырванее. Нават яе сяброўка Зіна заўважала гэта: «Ты прыкмячай, Вася заўсёды там, дзе і ты».

Ані і самой падабалася гаварыць з Васілём: ён многа чытаў, многа ведаў. Але ўсё-ж яна сказала:

— Не трэба. Я сама падрыхтуюся.

Больш за ўсё яна хвалявалася ў апошнія дні вучобы: не хацелася расставацца з тымі, з кім моцна пасябравала ў вучылішчы. Але ўсё здарылася так, як ніхто не чакаў. Камсамол кінуў кліч ехаць на асваенне цалінных зямель, і ўся іх група падала заявы. І вось цяпер усе разам едуць у Казахстан.

За акном пачало цямнець. І толькі далёка наперадзе былі відаць гірлянды агнёў.

— Маладзечна зараз, — сказаў Вася, — давай сыйдзем на перон.

На пероне — людскі натоўп. Яшчэ адна група моладзі адпраўлялася на цалінныя землі. Здавалася, праводзіць яе прышоў увесь горад — так многа было тут людзей. Аня з Васілём сталі воддаль ад вагона, наглядалі, як моладзь развітваецца з роднымі. Позірк Ані спыніўся на дзяўчыне ў зялёным паліто.

— Адразу-ж тэлеграфуй, — наказвала ёй пажылая жанчына.

— Не турбуйся, мама, даеду добра.

— Не, ты абавязкова тэлеграфуй, — прасіла маці.

Аня прыслухоўваецца да голасу, і ёй здаецца, што яна ведае гэтую дзяўчыну. Перад тым, як зайсці ў вагон, дзяўчына паварочваецца тварам да Ані, уважліва глядзіць на яе.

— Анечка! — крычыць яна, і чамадан ляціць у яе з рук.

— Ліза!

Яны хутчэй адчулі, чым пазналі адна другую. За восем год абедзьве змяніліся.

— А я думала, цябе вывезлі ў Бразілію.

— Не паспелі. Савецкія афіцэры адшукал нас.

— Хто гэта? — ціха пытае Вася.

— Гэта-ж Ліза, помніш, я табе расказвала. А гэта Вася, таксама з намі едзе, — гаворыць Аня.

Паравоз дае свісток.

— Шчаслівай дарогі! — махаюць людзі рукамі, хусцінкамі, капелюшамі.

— Будзем працаваць так, — гаворыць Аня Лізе, — каб ніхто і ніколі не ўбачыў тых жахаў, якія бачылі мы.

— Такога больш не будзе, — упэўнена адказвае Вася. — Ніколі не будзе.

**г. Гродна.**

---

# ПОМНІК РУСКАЙ ВОІНСКАЙ СЛАВЫ

**У самым пачатку Айчыннай вайны 1812 года на поўднёвым захадзе Беларусі, у горадзе Кобрыне, была атрымана першая значная перамога над войскамі Напалеона ў межах Расіі. У выніку жорсткага бою тут быў разбіты і капітуляваў саксонскі атрад генерала Клінгеля, які ўваходзіў у склад 7-га корпуса «вялікай арміі». Трафеі склалі 4 сцягі і 8 гармат. У палон здаліся 2 генералы, 76 афіцэраў і 2 382 салдаты. У гонар гэтай перамогі са сцен Петрапаўлаўскай крэпасці ўпершыню прагрымелі залпы артылерыйскага салюта.**

**У 1911 годзе ў сувязі з блізкім стагоддзем з часу заканчэння вайны 1812 года ў палках, якія прымалі ўдзел у кобрынскім баі, зарадзілася думка аб стварэнні помніка продкам-героям. Сярод асабовага саставу гэтых палкоў быў праведзены збор сродкаў. Акрамя таго, падпісныя лісты былі распаўсюджаны таксама сярод цывільнага насельніцтва Гродзенскай вобласці і воінскіх часцей, якія стаялі непадалёк ад Кобрына.**

**Неўзабаве была сабрана дастатковая сума грошай. 15 ліпеня 1912 года ў Кобрыне была зроблена закладка помніка. Увосень таго-ж года ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося яго адкрыццё.**

**Помнік уяўляў гранітную скалу, увенчаную вялікім бронзавым арлом, які, шырока распасцёршы свае магутныя крыллі, дзюбай і кіпцямі разрываў вянок славы Напалеона. З трох бакоў пастамента былі ўмацаваны мармуровыя мемарыяльныя дошкі. Наперадзе помніка адна каля адной устаноўлены чатыры цяжкія марціры з высока ўзнятымі кароткімі шырокажэрлымі ствaламі. Побач былі складзены піраміды з пяціпудовых бомб.**

**Аднак у такім выглядзе помнік праіснаваў нядоўга. Неўзабаве пачалася першая сусветная вайна, і Кобрын быў заняты вільгельмаўскімі салдатамі. Хцівыя да чужога багацця, акупанты наспех вывозілі ва Усходнюю Прусію ўсё, што траплялася пад руку, нават цэглу, якую яны здабывалі, разбіраючы каробкі спаленых дамоў. Асабліва старанна вывозілі яны каляровыя металы, ахвярай чаго неўзабаве стаў арол, які быў зняты з помніка і бясследна знік. Праз некаторы час былі зняты таксама мемарыяльныя дошкі.**

**На працягу многага часу асірацелы пастамент з маўклівым дакорам напамінаў жыхарам Кобрыншчыны аб варварстве вільгельмаўскіх прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне.**

**Пасля пераможнага заканчэння Вялікай Айчыннай вайны паўстала пытанне аб прывядзенні ў належны выгляд кобрынскага помніка. Мінскі скульптар Керзін атрымаў заказ на выраб арла па ўзору першапачатковага. Скульптура была адліта ў бронзе і тры гады назад заняла па праву належачае ёй месца на пастаменце. Адначасова з гэтым на ліцавым баку была ўмацавана выпадкова ўцалеўшая арыгінальная мармуровая дошка з наступным надпісам: «Рускім воінам, якія атрымалі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15-га ліпеня 1812 года».**

**Аднак аднаўленне помніка ўсё яшчэ не было закончана — адсутнічалі бакавыя мемарыяльныя дошкі, надпісы на якіх мелі вялікае значэнне для помніка. На працягу доўгага часу не ўдавалася устанавіць гэтых надпісаў. Толькі ў самы апошні час, калі тэкст быў знойдзены, аказалася магчымым аднавіць і ўмацаваць на помніку гэтыя мемарыяльныя дошкі. На адной з іх чытаем:**

**«Пад начальствам генерала-ад'ютанта кавалерыі Тормасава ў паланенні варожага атрада ў Кобрыне ўдзельнічалі палкі: пяхотныя — Ражскі, Апшаронскі, 13-ы егерскі, піянерная рота капітана Куцэвіча; драгунскія — Старадубаўскі, Уладзімірскі, Тварскі, уланскі — Татарскі; гусарскія — Паўлаградскі, Александрыйскі, Лубенскі, казачы — Барабаншчыкаў; артылерыйскія роты — лёгкая № 34 і конныя № 11 і 12».**

**На другой дошцы напісана:**

**«Узведзены нашчадкамі Кобрынскай перамогі, палкамі: пяхотнымі — Ражскім і Апшаронскім, 9-м сапёрным батальёнам, драгунскімі — Старадубаўскім, Тварскім; уланскімі — Уладзімірскім, Татарскім; гусарскімі — лейб-Паўлаградскім, Александрыйскім, Лубенскім Насельніцтвам Гродзенскай губерні, пры ўдзеле палкоў 38-й пяхотнай дывізіі і 38-й артылерыйскай брыгады. 15-га ліпеня 1912 года».**

**А. МАРТЫНАЎ.**





Мал. Ю. Пучынскага.

Аляксандр **АВЕЧКІН**

# Выпадак у паветры

**Апавяданне**

Артур Петэрс атрымаў адпачынак. Ён сабраўся паехаць на тры дні да сваёй каханай у Крэйцберг. Пілот развітаўся з экіпажам. Раптам абвясцілі, што Петэрса выклікаюць да дыспетчара...

Цямнела. Запальваліся неонавыя сігнальныя лямпы. Мільгалі бартавыя агні машын. Раўлі маторы. Кожныя пяць мінут прылятаалі і адляталі самалёты. На граніцы аэрадрома паўкругам стаялі амерыканскія рэактыўныя знішчальнікі.

У дыспетчарскай было двое: камандзір атрада, у якога працаваў Петэрс, і супрацоўнік разведкі, надзвычай хударлявы, з жывымі пранклівымі вачыма. Ён сядзеў у скураным крэсле побач з пунктам кіравання стартам, курыў.

Артур Петэрс далажыў аб прыходзе.

Амерыканец страпянуўся, нібы чагосьці спалохаўся, акінуў Петэрса вострым пранклівым позіркам.

— Лепшы пілот порта Артур Петэрс. Беспартыйны. Будуць заўвагі? — ціха прамовіў камандзір атрада.

— Будуць. Абавязкова будуць, — адрывіста і суха кінуў амерыканец. Ён блізка падышоў да Петэрса. — Вы ведаеце, куды трэба ляцець?

— Не. Я ў адпачынку, — адказаў Артур.

— Цудоўна! — амерыканец пасяброўску крануў пілота за плячо. — Аб такіх рэчах вам... (ён ледзь не сказаў: немцам) ведаць не трэба. Ваш абавязак ляцець і выканаць загад. Ці не так? Заданне не вельмі цяжкае, але ганаровае. Атрымаеце ўзнагароду. О-о, мы вельмі шчодрыя! Як сапраўдныя сябры. З вамі паляціць пасланец. Прашу запрасіць сэра Скота, — пасля некаторай паўзы звярнуўся ён да камандзіра атрада.

У дыспетчарскую ціха ўвайшоў чалавек, доўгі, як жардзіна, апрануты ў жоўтую скураную куртачку і скураныя штаны, спаласаваныя ў розных напрамках засцёжкамі «маланка». Ён кароткім і рэзкім рыўком нахіліў галаву ўніз і доўга не падымаў яе.

— Пазнаёмцеся, — сказаў супрацоўнік разведкі.

Скот варухнуў галавой, крыху павярнуў яе ўбок, прыжмурыў вочы, нібы прыцэльваўся, і працягнуў руку Петэрсу.

Артур не падаў рукі, а толькі прыклаў далонь да пілоткі.

— Петэрс.

— Скот, — буркнуў амерыканец і хутка схаваў руку за спіну.

Артур, прыгнечаны і злосны, вышаў з дыспетчарскай.

— Ну, што там? — спытаў штурман Макс, калі Петэрс прышоў у інтэрнат.

— Адпачынак адмяняецца. Збірайцеся ў палёт.

— К ліху! — вылаяўся Макс. — Не палячу!

— Трэба ляцець, — задумліва адказаў Петэрс, апранаючы лётнае адзенне. — Тут не ўсходняя зона, работу цяжка знайсці...

Прынеслі метэазводку. Надвор'е псавалася. На маршруце чакалася навальніца і дождж.

... Экіпаж самалёта заканчваў апошнія прыгатаванні да палёту.

Да Петэрса падышоў матарыст з аэрадромных майстэрняў. Чалавек пажылы. На яго шырокай пераносіцы ёмка сядзелі акуляры.

— Што вам трэба? — няветліва сустрэў яго Артур.

— Я жадаю ведаць, ці Артур Петэрс сумленны немец?

Артуру здавалася, што сёння знарок усе робяць яму непрыемнасці. Ён хацеў адыйсціся ад матарыста, але той узяў яго пад руку.

— Вы не павінны ляцець...

— Чаму? — здзівіўся Артур.

— На барту самалёта правакацыйныя лістоўкі. Яны будуць скінуты на тэрыторыі Чэхаславакіі.

Петэрс нейкі момант разважаў, потым стукнуў пілоткай аб калена.

— А мы ўсё-ж паляцім! Наш экіпаж не мае дачынення да палітыкі.

— Памыляецеся, Петэрс, цяпер няма такіх на зямлі. Або за вайну, або супраць яе, за мір. Вы павінны...

Петэрс так і не даслухаў, што ён павінен рабіць. Да самалёта ў змроку непрыкметна падышоў Скот. Механік, убачыўшы амерыканца, запусціў маторы.

Праз некалькі мінут самалёт узляцеў у паветра.

З надыходам ночы вецер узмацнеў. У шкло кабіны ўдарылі першыя кроплі дажджу. Петэрс уключыў аўтапілот. Самалёт боўтала з боку на бок. Нервова ўздрыгвалі стрэлкі прыбораў.

Побач са штурманам на скураным табурэце сядзеў Скот. Амерыканец быў спакойны. Час-адчасу пытаючы пра курс самалёта, ён звяраў штосьці па сваёй карце.

Артур выклікаў у кабіну радыста Готліба.

— Слухай, Готліб, запытай, дзе ёсць добрае надвор'е і ці можна змяніць курс?

— Я пытаў, — адказаў Готліб.

— Ну?

Радыст кінуў злосны позірк на амерыканца. Усё было зразумела.

Калі Готліб вышаў, Артур звярнуўся да амерыканца:

— Змяніць курс трэба, а то разнясе самалёт!

Скот без хвалявання, спакойна паглядзеў на Петэрса.

— Ні ў якім разе!

— Тады я вярнуся назад! — спрабаваў напалохаць пілот.

Скот усміхнуўся.

— Петэрс жартуе. У Петэрса старэчькая маці. І хутка будзе маладая жонка. А ў вашай Германіі так мала работы і так многа вольных рук...

Моцны штуршок паветра падхапіў самалёт, падкінуў яго, як цацку, потым рэзка штурхнуў уніз... Дзесьці нешта дзынкнула, у маторах з'явіўся перабой.

Артур набраў вышыню пяць тысяч метраў. Тут было крыху спакайней. Угары мігцелі зоркі. А зямлі — не відаць, яна была ахутана хмарамі.

Пілот дастаў пісьмо, употай атрыманае сёння з роднага горада Альтэнбурга. Пісала маці:

«... Дарагі Артур, вось ужо чатыры гады, як няма цябе. І не пішаш. Выпадкова дастала твой адрас. І вось пішу. Ці добра табе там? У нас жыццё стала іншым. Мы ўсе добра жывем. Няўжо табе лепш там? Вяртайся хутчэй. Мы ўсе будзем вельмі рады!»

Далей Артур не чытаў. Схаваў пісьмо ў кішэню і нерухома застыў.

Петэрс не хацеў, каб экіпаж бачыў яго ўсхваляванасць, і, пагасіўшы святло, узяўся за штурвал, выключыў аўтапілот. Кіруючы самалётам, ён усё думаў...

Вясной пяцідзесятага года Артур Петэрс трапіў у Заходнюю Германію. Паступіў у аэрапорт. Лятаў дзень і ноч. Яго пасылалі ў самыя цяжкія і адказныя рэйсы. Мары аб лепшым жыцці часам прымушалі рабіць непасільную работу. У апошні час ён і яго таварышы пачыналі неяк расчароўвацца. Які ім выпадзе лёс!

... І вось ён раптам пачуў па радыё выразныя гукі музыкі. Здавалася, дзесьці цвёрда, крок у крок, ішлі людзі. Радыёмаякі Заходняй Германіі такой музыкі ніколі не перадавалі. Пачулася песня. Яе спявалі на рускай мове:

Мы за мир, и песню эту
пронесём, друзья, по свету...

Артур ведаў рускую мову. Ён прыслухаўся да песні. Праз момант яна захапіла яго.

— Які пеленг? — запытаў Артур у радыста.

Готліб паглядзеў на соннага амерыканца і, усміхнуўшыся, адказаў:

— Пеленг міру!

«Пеленг міру... — падумаў Артур. — Выдатна сказана». І тут ён зноў успомніў пра пісьмо. Думаў і слухаў, як гучала песня. Потым ён да болю ў пальцах сціснуў штурвал і, з палёгкай уздыхнуўшы, цвёрда сказаў:

— Трымай гэты пеленг!

— Ёсць трымаць! — адказаў радыст.

Артур пільна паглядзеў на другога пілота. Той быў таксама згодзен з новым курсам.

А з шлемафона велічна ўсё гучала песня...

Яна гучала і тады, калі прачнуўся амерыканец. Ён зірнуў на компас, потым на сваю карту і, нічога не разумеючы, паглядзеў на штурмана.

— Які пеленг? — запытаўся Скот.

— Пеленг міру! — адказаў радыст.

Амерыканец недарэчна ўсміхнуўся.

— Што?.. — Толькі цяпер зразумеў ён, што самалёт, ідучы па пеленгу, на які трымаўся радыст, ляцеў на адзін з аэрадромаў Усходняй Германіі. Ён устаў і імгненна хапіўся за кішэню. Бліснула сталь пісталета. Але адначасова з гэтым амерыканец атрымаў моцны ўдар у сківіцу ад Петэрса.

Да Петэрса яшчэ прыбег радыст.

... Далёка ўнізе бушавала непагода. Хмары, зрэдку асветленыя бліскавіцамі, плылі над самалётам. А самалёт цвёрда трымаў курс на адзін з аэрадромаў Усходняй Германіі.

(Пераклад з рускай мовы.)

# ЗАРУБЕЖНЫЯ ГОСЦІ Ў БЕЛАРУСІ



**Нашу рэспубліку наведала дэлегацыя Таварыства венгера-савецкай дружбы. Госці пабывалі ў калгасе «Рассвет» Магілёўскай вобласці** (на здымку злева), **у піянераў Мінска** (здымак унізе), **наведалі прадпрыемствы, тэатры і навуковыя ўстановы.**

Фото Д. Прэса.









**Сёлета на грудзях многіх мінчан часта можна заўважыць незвычайныя значкі, на якіх відаць два дзяржаўныя сцягі — Чэхаславакіі і СССР. Іх прывезлі з сабою і падаравалі жыхарам беларускай сталіцы госці-сябры, артысты чэхаславацкага цырка. Амаль тры тыдні праходзілі іх гастролі. Гэтыя гастролі спрыялі яшчэ большаму збліжэнню нашых братніх народаў.** На здымках: **некалькі нумароў з выступленняў нашых гасцей. 1. Паветраныя гімнасты Гіжэвы. 2. Клоун Беда Лак. 3. Артысты Кнот — баланс на катушках. 4. Заключны ўрачысты выхад удзельнікаў праграмы.**

Фото А. Дзітлава.





М. КЛІМКОВІЧ



# У доме-музеі А. П. Чэхава

На поўднёва-заходняй ускраіне сонечнай Ялты, там, дзе калісь была вёска Аутка, а цяпер раскінуўся пасёлак Чэхава, стаіць невялікі двухпавярховы белы дом ці— як любоўна кажуць у народзе — домік Чэхава. З ім звязаны апошнія чатыры гады жыцця і творчасці вялікага рускага пісьменніка, гады яго літаратурнай славы і спеласці. Тут, на поўдні, прыкаваны цяжкай хваробай, вялікі пісьменнік адрэдагаваў першае поўнае выданне сваіх твораў, прададзенае разам з усімі будучымі, яшчэ ненапісанымі творамі, вядомаму тады капіталісту-кнігавыдаўцу А. Ф. Марксу. Тут Антон Паўлавіч напісаў п'есы «Тры сястры» і «Вішнёвы сад», аповесць «У яры», апавяданні «Архірэй», «Дама з сабачкам», «На каляды», «Нявеста». Дарэчы адзначым, што прадпрыймальны кнігавыдаўца, які так ёмка выкарыстаў цяжкае становішча А. П. Чэхава і ўцягнуў яго ў пажыццёвую кабалу, праз год-паўтара ўжо вярнуў свае «затраты» і на вачах абуранай грамадскасці пачаў набіваць свае кішэні чыстым прыбыткам, нікольki не клапоцячыся аб смяротэльна хворым пісьменніку...

Домік-музей, з вялікімі цяжкасцямі захаваны пасля смерці Антона Паўлавіча яго сястрой Марыяй Паўлаўнай, у 1921 годзе, як толькі ў Крыму усталявалася савецкая ўлада, быў узяты на дзяржаўнае ўтрыманне і стаў філіялам Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя В. І. Леніна. Ён стаў жывым помнікам аднаму з карыфеяў рускай літаратуры. За кожны пасляваенны год у доме-музеі А. П. Чэхава бывае звыш 60 тысяч чалавек. Тут сустрэнеш людзей і з далёкага Запаляр'я, і з сібірскай тайгі, і з нашага беларускага Палесся, і са стэпаў Казахстана, і з буйнейшых прамысловых гарадоў.

З вялікім хваляваннем уваходзіш на невялікі двор музея. Пяцьдзесят год таму назад тут быў стары вінаграднік каля запушчанага татарскага могільніка. Калі сюды першы раз прышоў Антон Паўлавіч, ён убачыў амаль такую-ж карціну, якую зараз можна бачыць, ідучы да магілы Максіма Багдановіча, што лявей і вышэй былой Аутк: уся Ялта згрудзілася ўнізе, на ўзмор'і, прыціснулася да цёплага, ласкавага, сіне-блакітнага мора... Цяпер з дворыка музея ні Ялты, ні мора не відаць: іх засланілі магутныя дрэвы, калісьці пасаджаныя самім Чэхавым. Разглядаючы ў музеі фотаздымак, які зафіксаваў пасадку Антонам Паўлавічам тонкіх дрэўцаў, і гледзячы праз акно на магутны кедр, які ўзнёс сваю вяршыню ў сіняе неба і не для адной сотні людзей даў цень сваёй магутнай кронай, гледзячы на высачэзныя цёмназялёныя стрэлы кіпарысаў, на ўвесь густы і цяністы сад, міжволі пераконваешся ў справядлівасці слоў Антона Паўлавіча: «Если каждый человек на куске земли своей сделал бы всё, что он может, как прекрасна была бы земля наша».

З яшчэ большым хваляваннем уваходзіш у тыя пакоі, дзе жыў і тварыў А. П. Чэхаў: іх чатыры на другім паверсе — веранда, сталовая, кабінет і спальня. Увесь ніз, дзе таксама чатыры пакоі, займалі звычайна прыезджыя, якія часта бывалі ў гасцінным доме пісьменніка, а невялічкі пакойчык у мезаніне займала раней і займае цяпер Марыя Паўлаўна — бяззменны дырэктар музея. Часамі прыязджае сюды і жыве сярод дарагіх сэрцу рэчаў і ўспамінаў жонка пісьменніка — Ольга Леанардаўна Кніпер-Чэхава — народная артыстка СССР, лаўрэат Сталінскай прэміі. Гэтыя два чалавекі, найбольш блізкія Антону Паўлавічу пры жыцці, аддаюць яму і зараз усю ўвагу і ўсе сілы свайго доўгавечнага, прыгожага, поўнага працы і любві да рускай літаратуры і мастацтва жыцця.

Любоўю да мастацтва прасякнуты кожны куточак у гэтым доме, кожная рэч у ім. Вось у сталовай — піяніна. На ім іграў С. І. Рахманінаў, пад яго акампанемент не раз спяваў Ф. І. Шаляпін. Вось фотапартрэт П. І. Чайкоўскага з надпісам: «А. П. Чехову от пламенного почитателя. 14 октября 1889 г. П. Чайковский». Вось некалькі эцюдаў і невялікіх карцін («Рака Істра», «Дуб і бярозка», «Стагі сена ноччу пры месяцы»), намаляваных І. І. Левітанам, які не раз бываў у гэтым доме, сябраваў з Антонам Паўлавічам і яго братам — таленавітым мастаком Нікалаем Паўлавічам. Вось медны адбітак з барэльефа Ф. П. Талстога — сцэнка з гамераўскай «Адысеі». Вось васняцоўскія «Багатыры» і мадэль старажытнага рускага гарадка — работа мастачкі Давыдавай. Вось драўляныя разьбяныя ларцы і драўлянае блюда з рускім арнаментам і надпісам: «Чым хата багата, тым і рада»... І ва ўсім гэтым адчуваецца глыбокая, арганічная, нічым не пераадольная схільнасць, прага да народнага мастацтва, да таго мастацтва, якое ўсімі сваімі карэннямі звязана з народам.

Большую частку музея займаюць экспанаты, звязаныя з літаратурай і тэатрам. Калі глядзіш на партрэты і фотаздымкі з асабістымі надпісамі Д. В. Грыгаровіча («От старого писателя на память молодому таланту. 31 марта 1886 г.»), Л. Н. Талстога («Антону Павловичу Чехову. Лев Толстой»), Максіма Горкага («Антону Павловичу Чехову. А. Пешков. Январь, 17. 1904 г.»), В. І. Качалава («Горячо, всей душой любимому Антону Павловичу Чехову. Бесконечно благодарный Василий Качалов. 17 января 1904 г.»), К. С. Станіслаўскага («Искренне любимому и чтимому А. П. Чехову, создателю нового театра, от благодарного режиссёра и актёра



А. М. Горкі і А. П. Чэхаў.

К. С. Алексеева (Станиславского). Москва. 10 февраля 1902 г.»), В. І. Неміровіча-Данчанкі («Талантливейшему из современных драматургов Антону Павловичу Чехову, постоянный в своем увлечении Вл. Немирович-Данченко) і многіх дзесяткаў іншых артыстаў, пісьменнікаў і дзеячоў культуры, у пакоі, здаецца, ажывае атмасфера тагочаснага культурнага жыцця Расіі. У ёй было шмат прагрэсіўнага, светлага, таго, што абнадзейвала, падтрымлівала. Узаемна падтрымлівалі адзін другога перадавыя людзі Расіі — яе розум, яе сумленне. Яны ішлі пад непарыўным абстрэлам з боку папоўскага цемрашальства, дзікунска-забабоннага мяшчанства і тупога дзяржымордаўскага царызма, але яны наступалі на гэтыя чорныя сілы, цяснілі іх і часамі раздавалі такія звонкія аплявухі нахабным ворагам, што іх рэха пошчакам кацілася па ўсёй Расіі. Аб адной такой аплявусе сведчыць пісьмо А. П. Чэхава А. Н. Весялоўскаму, які ўзначальваў аддзяленне прыгожай славеснасці Акадэміі навук, з адмаўленнем ад годнасці ганаровага акадэміка, якой Чэхаў быў удастоены ў 1900 годзе. Як вядома, у 1902 годзе такой чэсці быў удастоены і Максім Горкі, і яго ад душы павіншавалі ўсе перадавыя людзі Расіі. Але ў справу ўмяшаўся цар і яго паліцыя. На дакладзе паліцэйскага начальства аб абранні М. Горкага акадэмікам цар напісаў сваю бязглуздую рэзалюцыю: «Более чем оригинально» і гэтага было дастаткова, каб угодлівае акадэмічнае начальства адхіліла абранне Горкага («в виду привлечения Пешкова к дознанию по 1035 статье...»). Антон Паўлавіч Чэхаў і В. Г. Караленка адмовіліся ад звання акадэмікаў, гэтым самым пратэстуючы публічна і галасна супраць паліцэйскага самавольства ў пытаннях навукі і культуры.

А. П. Чэхаў, як вядома, не быў рэвалюцыйным дэмакратам, але ён быў мастаком-рэалістам, які пільна прыглядаўся да жыцця і лічыў абавязкам пісьменніка сумленна пісаць праўду аб жыцці і людзях. Самай глыбокай любоўю яго была любоў да народа. Вуснамі аднаго з персанажаў «Чайкі» ён гаворыць: «Я люблю свой народ. Я чувствую, что если я писатель, то я обязан говорить о народе, о его страданиях, о его будущем». Рэалізм і любоў да народа разам з вялікім талентам і надавалі вялікую праўдзівасць яго творам і вялікую сілу іх уздзеяння. І за гэта А. П. Чэхава любіў і падтрымліваў народ. Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, падарунак гледачоў у Ялцінскім гарадскім тэатры — пальмавыя галінкі з чырвонай істужкай і надпісам: «Антону Павловичу Чехову, глубокому истолкователю русской действительности, 23 апреля 1900 г.». Гэта было якраз тады, калі Маскоўскі мастацкі тэатр, паколькі Чэхаў не мог з-за хваробы паехаць у Маскву паглядзець свае п'есы на сцэне, прыехаў у Ялту і паказаў «Чайку» і «Дзядзю Ваню». Падараваць надпіс на чырвонай істужцы — гэта была яўная крамола, але гледачы адважыліся на гэта, бо яны адчувалі, што, не будучы рэвалюцыянерам, Чэхаў сваімі творамі актыўна змагаецца разам з народам супраць «унтэрпрышыбееўскай» царскай манархіі. А. Чэхаў палічыў сваім абавязкам захаваць у сябе гэты «крамольны» падарунак у ліку самых дарагіх і векапомных.



А. П. Чэхаў.

Асаблівую ўвагу ў музеі прыцягваюць рэчы, якія звязаны з вядомым падарожжам А. П. Чэхава на Сахалін у 1890 годзе. Ён ехаў па Волзе і Каме да Пермі, адтуль па чыгунцы да Цюмені, далей каля 4000 кіламетраў у тарантасе, пераплыў Байкал і паплыў па Амуру і Татарскаму праліву. Гэта было цяжкае падарожжа, каб сваімі вачамі ўбачыць «место невыносимых страданий, на какие только бывает способен человек вольный и подневольный», адно з тых месц, дзе «сгноили миллионы людей, сгноили зря, без рассуждений, варварски...», месца, у якое «мы должны ездить на поклонение, как турки ездят в Мекку» (з пісьма А. С. Суворыну). На Сахаліне А. П. Чэхаў правёў усеагульны перапіс насельніцтва, вывучыў быт і напісаў кнігу, якая з'явілася абвінавачым актам рускаму царызму.

У музеі захаваўся медны званок, які падаравалі Антону Паўлавічу катаржны ссыльныя.

Грамадская работа Чэхава была рознастайнай: тут і пабудова школ для сялян, і арганізацыя збору сродкаў для дапамогі хворым туберкулёзам беднякам, якія пешкі даходзілі да Ялты, не маючы ні капейкі ў кішэні. Антон Паўлавіч сам напісаў і разаслаў адозву, сам прымаў ахвяраванні, сам бясплатна выслухоўваў хворых. Ім быў арганізаваны першы ў Расіі санаторый «Луэлар» для хворых туберкулёзам беднякоў. Зараз гэты санаторый носіць імя свайго арганізатара і заснавальніка А. П. Чэхава.

Музей адлюстроўвае літаратурныя і мастацкія густы Чэхава, яго дружбу з шэрагам рускіх пісьменнікаў, сярод якіх асабліва вылучаецца дружба з Максімам Горкім. Максіму Горкаму паліцыяй было забаронена пражыванне ў Ялце, і па запрашэнню Чэхава ён заўсёды спыняўся ў яго доме, які лічыўся не ў Ялце, а ў вёсцы Аутка. Максім Горкі высока цаніў майстэрства Чэхава: «Как стилист Чехов недосягаем, и будущий историк литературы, говоря о росте русского языка, скажет, что этот язык создали Пушкин, Тургенев и Чехов». Антон Паўлавіч уважліва сачыў за ростам маладога Горкага і радаваўся гэтаму росту.

А. П. Чэхаў быў вельмі сціплым чалавекам — і гэта знайшло свой адбітак у музеі. Ён аднолькава ўшаноўваў і надпісы вялікіх людзей і нікому невядомых сваіх школьных таварышаў.

Чэхаў вельмі сціпла ацэньваў сваё месца ў культурным жыцці. Ён пісаў брату Пятра Ільіча Чайкоўскага — Мадэсту: «Я готов день и ночь стоять почётным караулом у крыльца того дома, где живёт Пётр Ильич, — да такой степени я уважаю его. Если говорить о рангах, то в русском искусстве он занимает теперь второе место после Льва Толстого, который давно уже сидит на первом месте (третье я отдаю Репину, а себе беру девяносто восьмое)».

Дом-музей Чэхава — гэта не толькі помнік, гэта ачаг культуры, яе жывы рассаднік. Ён узмацняе любоў да літаратуры і сёння, кал адзначаецца ўсімі народамі Савецкага Саюза і прагрэсіўным чалавецтвам усяго свету дата 50-годдзя памяці Антона Паўлавіча Чэхава, гэтыя сцежкі і мясціны ў Ялце надзвычай дарагі і многалюдны. Наш народ свяшчэнна захоўвае памяць аб вялікім рускім пісьменніку.

Зоя ПЛІСКО

# ДРУЖНАЯ СЯМ'Я

Ну, хто-б мог падумаць, што Вятошкін, хлопец увогуле спакойны і разважлівы, наробіць столькі глупстваў!.. Мала таго, што напіўся, дык яшчэ паламаў у кухні стол!

Усім сваім выглядам ён выяўляў пасля поўнае раскаянне, але ўсе прызнакі ўсвядомленай віны быццам і не краналі Раісу Яфімаўну Хігер.

— У панядзелак будзем абмяркоўваць тваe паводзіны на совеце інтэрната,—сказала яна. — Каб да гэтага часу стол быў такім, як быў.

— А можа лепш не абмяркоўвайце? — папрасіўся Вятошкін. — Стол я і так адрамантую.

— Будзе відно... — Раіса Якаўлеўна адвярнулася, хаваючы ўсмешку. — Пакуль нічога не абяцаю.

Вятошкін уздыхнуў і панура накіраваўся ў кухню. Прысутнічаць на совеце інтэрната яму не хацелася. Стаяць перад советам у якасці адказчыка за ўчынак?.. Не, гэтага ён нікому не жадаў-бы. Адна Ніна Жук чаго варта!? Як пачне яна, не ведаеш, куды і вочы падзець. Вятошкіну нават здалося, што ён чуе яе ўедлівы, колкі галасок: «Дык, кажаш, пастараешся больш не піць? А то можа палажыць цябе ў лячэбніцу? Ёсць такая для алкаголікаў». Ох, ужо гэтая Ніна! Ёй-бы не мулярам, а пракурорам быць.

Па няпісаных правілах збіраліся на нараду не толькі члены бытавога совета, але і ўсе жадаючыя. Члены совета звычайна садзіліся за стол, астатнія — хто дзе мог. І хоць адбываліся такія нарады кожны панядзелак, пытанняў заўсёды ўзнікала шмат: тут і палітыка-масавая работа, і культурнае абслугоўванне, і, як заўсёды, пытанне быту маладых будаўнікоў. Акрамя таго, работа гурткоў мастацкай самадзейнасці, спартыўных секцый... Адным словам, неадкладных спраў, якія трэба было тэрмінова вырашыць, заўсёды хапала.

Выхаваўчая работа пачынаецца на вытворчасці: у цэху, на будаўнічай пляцоўцы, у майстэрні. Ад таго, як складаюцца ў маладога рабочага справы на рабоце, у многім залежаць і яго паводзіны. Вось чаму Раіса Яфімаўна, якая адказвала за выхаванне, заўсёды імкнулася быць у курсе вытворчых спраў моладзі.

Мала ведаць, кім працуе юнак ці дзяўчына: цесляром або мулярам, тынкоўшчыкам ці кранаўшчыком. Трэба яшчэ ведаць, як яны працуюць, ці задаволены сваёй спецыяльнасцю, колькі зарабляюць.

Пры разглядзе персанальных спраў узнікалі самыя непрадбачаныя акалічнасці. Бадай ні адна нарада не абыходзілася без гэтага. Пяцьсот хлопцаў і дзяўчат з самымі рознастайнымі інтарэсамі і імкненнямі былі жыхарамі вялікага, шумлівага інтэрната. Але для большасці з іх, як і для Вятошкіна, выклік на совет быў ужо спагнаннем. Другі раз ніхто не хацеў быць выкліканым.

— А чаму-б нам не паслухаць каменданта?— прапанавала аднойчы Раіса Яфімаўна.

— Сапраўды, яна-ж зусім бюракратам зрабілася, — падтрымаў яе старшыня совета Віктар Казлоў. — Нават у пакоях не бывае.

Вестка аб тым, што будуць абмяркоўваць работу каменданта, вельмі хутка абляцела ўсіх. І вечарам у чырвоным кутку сабраліся жыхары. Ля сцен ажыўлена шапталіся.

— Слова для справаздачы аб палепшанні быту ў інтэрнаце мае таварыш Шаўлюкевіч, — афіцыйным тонам абвясціў Казлоў.

Шаўлюкевіч спрабавала спачатку адбыць жартамі. Якая там справаздача: што было, тое сплыло, а што ёсць — дык і вы-ж не госці, самі ведаеце... Аднак ніхто не прыняў яе гумару.

А тут яшчэ паднялася Вольга Крэер:

— Хіба мала да вас звярталіся, каб чайнікі і фіранкі ў пакоях былі? — сказала яна. — А вы і слухаць не хочаце...

— Абяцанкамі ўсё корміце...— кінуў з месца Ульяновіч.

І пайшло... і пайшло... Старшыня совета толькі ўсміхаўся, а каменданту ўжо не да смеху было, пачырванела ўся.

— Прызнаю свае памылкі, — нарэшце не вытрымала яна атакі.

— Прызнаваць мала, — сказаў Ульяновіч. — Трэба палепшыць работу.

— Правільна, хай на справе дакажа! — зашумелі каля сцен.

Шаўлюкевіч зусім разгубілася, нават забыла сесці. Так і прастаяла-б да канца нарады, каб нехта не здагадаўся падставіць ёй крэсла.

Прынялі пастанову, і ў ёй запісалі: работу каменданта лічыць нездавальняючай, прапанаваць трымаць больш цесную сувязь з советам інтэрната.

Нельга сказаць, каб адразу Шаўлюкевіч рэзка палепшыла работу. Ды і сапраўднага кантакту з советам пакуль што не было. Аднак сякія-такія зрухі намеціліся. У пакоях з'явіліся чайнікі, фіранкі і нават сурвэткі.

Раіса Яфімаўна была задаволена вынікамі нарады. Галоўнае, што моладзь смела бярэцца за наладжванне свайго быту.

— Вось што значыць грамадскі суд!.. — не прамінуў адзначыць Ульяновіч. — А то разводзілі: «калі ласка» ды «выбачайце».

Пасля ад'езду Віктара Казлова з першай партыяй камсамольцаў у Казахстан пасаду старшыні заняла Вольга Крэер. Ульяновіч наогул лічыў, што дзяўчаты, якіх у совеце была большасць, — не дужа прынцыповыя. Але-ж цяпер Вольга даказала, што не горш за Казлова можа кіраваць советам.

Радавала Раісу Яфімаўну і другое. Людзі, якія даўно выехалі з Мінска, не гублялі сувязі з інтэрнатам.

Пісьмы ў інтэрнат паступалі штодня дзесяткамі. Пісалі з Прыбалтыкі, Сібіры, Далёкага Усходу — адусюль ішлі ўсхваляваныя цёплыя словы прывету. Асабліва ўзрадавала Раісу Яфімаўну пісьмо Уладзіміра Баранка, які ў свой час прынёс ёй нямала клопатаў.

«У арміі мне вельмі падабаецца, — піса ён. — Адно толькі дрэнна: ніяк не даецца палітвучоба. Часта ўспамінаю, як вы прыходзілі клікаць мяне на палітзаняткі, а я хаваўся. Дурны быў яшчэ, несвядомы»... У канцы пісьма была прыпіска: «Напішыце, што чуваць з Барэйшам, можа ўзяўся за розум?» І подпіс — «Ваш будучы рабочы, а зараз салдат Уладзімір Баранок».

Раіса Яфімаўна задумалася. Што-ж напісаць Баранку пра Барэйшу? Што застаўся такім, якім і быў? Але гэта не зусім тое. Сказаць-жа, што ўзяўся ён за розум яшчэ рана. Добра, што хоць менш сталі скардзіцца на яго. Быў-жа час, калі ён праходу нікому не даваў. Ледзь што не так, адразу — кулакі... І ў камітэт камсамола, і на совет выклікалі, і асабіста гутарылі. Вынікі-ж пакуль што, няма чаго таіць, не вельмі радасныя.

Аднойчы да Раісы Яфімаўны прышла кіраўнік палітгуртка Анна Міхайлаўна Грыгор'ева.



Совет інтэрната трэста № 2. Інфармацыю аб палепшанні быту рабочых робіць старшыня совета Вольга Крэер.



**У часы адпачынку** (злева направа) **Алег Осіпаў, Аўтыг Крывы, Сяргей Бірукоў і Валянціна Ермаловіч.**

Фото А. Лукашова.

— Хачу параіцца з вамі. Як вы глядзіце на тое, каб назначыць Барэйшу адказным за наведванне?

— Я не супраць. Паспрабаваць можна, — згадзілася Хігер.

Хлопец своеасабліва аднёсся да новых абавязкаў. У першы-ж дзень усім, хто прапускаў заняткі, ён заявіў коратка:

— Паспрабуйце мне толькі не хадзіць на гурток, тады наракайце на сябе...

Аб метадах, якімі «арганізоўвае» Барэйша наведванне, Раіса Яфімаўна тады яшчэ не чула і, назіраючы за тым, як ахвотна ўзяўся хлопец за даручаную справу, шчыра радавалася.

Але радавацца было рана. Анатоль хадзіў на заняткі і другіх прымушаў, але ранейшых звычак не кінуў. Па-ранейшаму прагульваў: адзін раз выйдзе на работу, другі — не выйдзе. У дні выдачы зарплаты ці авансу, як заўсёды, прападаў у піўным ларку.

Але такіх, як Барэйша, у інтэрнаце было няшмат. Раіса Яфімаўна магла іх па пальцах пералічыць: Вятошкін, Кузмянкоў, Іванчыкаў, яшчэ два-тры чалавекі. І ўсё. Мала, а цяжка з імі. Хоць той-жа самы Барэйша — не зусім ён ужо дрэнны, калі так горача за даручэнне ўзяўся!

Аднойчы выхавацелька сустрэла Барэйшу ў горадзе і пацікавілася:

— Куды ідзеш, Анатоль?

— Дамоў. Куды-ж яшчэ? — і ён спадылба глянуў на выхавацельку.

«Вось як, не ў інтэрнат, а дамоў», — адзначыла сама сабе яна.

У каго-небудзь іншага гэтае слова ў адносінах да інтэрната наўрад ці здзівіла-б яе. Але пачуць яго ад Барэйшы было нечакана і тым больш прыемна. Вельмі добра, калі сапраўды інтэрнат стаў для маладых рабочых родным домам — і для тых, хто мае дзе-небудзь бацькоў або блізкіх, і для тых, у каго іх няма. Вядома, ёсць яшчэ шмат недахопаў у быце. Але з кожным месяцам іх становіцца ўсё менш. Цяпер ва ўсіх пакоях устаноўлена радыё, ёсць шафы, люстры. Для таго, каб маладыя рабочыя, вярнуўшыся з работы, не затрачвалі шмат часу на прыгатаванне ежы, пры інтэрнаце працуе сталовая, тут-жа размешчаны магазін.

Вечарамі ў пакоях застаюцца нямногія. Адны ідуць паглядзець новы фільм (пры клубе інтэрната працуе свая кіноўстаноўка), другія спяшаюцца ў бібліятэку або на рэпетыцыю. Праўда, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці яшчэ нямнога — 40 чалавек. Працуюць харавы і драматычны калектывы, гурток духавых інструментаў.

Звычайна пасля рэпетыцыі ў пакой да харыстаў прыходзяць хлопцы і дзяўчаты з іншых гурткоў.

— Галіна Андрэеўна, міленькая, — просяць дзяўчаты кіраўніцу хора. — Сыграйце «Дывлюсь я на небо».

Прыгожыя, крыху сумотныя гукі запаўняюць пакой. І вось плыве чароўная мелодыя, зладжана гучаць галасы дзяўчат. Пяюць раздольныя рускія песні, задушэўныя украінскія, родныя беларускія то сумныя і працяглыя, то вясёлыя, жартоўныя. Хто не любіць гэтых хвілін, калі пад музыку здаецца, што ўсе сэрцы зліліся ў адно?

Доўга ў такія часы не разыходзіцца моладзь. І толькі калі стрэлка гадзінніка набліжаецца да адзінаццаці, Галіна Андрэеўна закрывае крышку піяніна. На сёння хопіць!

... У апошні час да выхавацелькі пачалі заходзіць дзяўчаты: пахваліцца абноўкай, параіцца, якім фасонам лепш пашыць сукенку, а то і расказаць пра свае сардэчныя справы.

У адзін з такіх дзён у чырвоным кутку сабраўся на нараду совет інтэрната. Настаў час падумаць, як лепш арганізаваць адпачынак моладзі. Першай далі слова Раісе Яфімаўне. Многае хацелася сказаць ёй: і аб тым, што клуб занадта перагружаны кіносеансамі, а гэта — перашкода для іншых культурных мерапрыемстваў, і пра тое, што неабходна навесці парадак на танцавальнай пляцоўцы, і асабліва — аб лекцыях.

— Усім нам вельмі спадабалася апошняя лекцыя студэнта універсітэта Манкевіча «Аб дружбе і таварыстве», — пачала выхавацелька. — Добрая лекцыя. Праўда? Не тое, што папярэдняя, якую, дарэчы, чытаў лектар з гаркома комсамола. Падумаць толькі, такая хвалюючая тэма — комсамольскі білет! А ён як пачаў па паперцы чытаць, дык і не адарваўся ад яе ні разу... Гэта я для чаго кажу? Ёсць у мяне прапанова: прасіць гарком комсамола, каб прысылалі да нас добрых, кваліфікаваных лектараў. Няхай лепш два разы ў месяц чытаюць, але каб добра.

— Дазвольце мне некалькі слоў, — сказала Анна Міхайлаўна. — Вось вы, Раіса Яфімаўна, самі гаварылі аб лектары з гаркома комсамола. Што-ж ён, па-вашаму, не кваліфікаваны? Кваліфікаваны, напэўна. А лекцыя дрэнная. Выходзіць, не ў кваліфікацыі справа. Здаецца мне, трэба ставіць пытанне па-іншаму, трэба, каб нам чыталі цікавыя лекцыі.

— Правільна. Так і запішам, — кіўнула галавой Вольга Крэер.

— І яшчэ наконт гарнітураў запішыце, — уставіла Ніна Жук. — Колькі разоў абяцалі новыя купіць.

— Пры чым тут гарнітуры? — умяшаўся Ульяновіч.

— Як пры чым? Вось пачнецца лета, можа ў калгас куды-небудзь выехаць прыдзецца, а нам проста сорамна выступаць. Рукавы кароткія, ледзь-ледзь локці прыкрываюць. На Пуцейскай пасля канцэрта ў нас пытаюць: што ў вас, дзяўчаты, матэрыялу нехапіла на блузкі? Трэба пра гарнітуры запісаць абавязкова.

— Запісаць мала, — заўважыў звычайна маўклівы Мікалай Мянчонак. — Ад упраўляючага трэста патрабаваць трэба, каб у гэтымжа месяцы выдаў грошы.

Раіса Яфімаўна, моўчкі ўсміхаючыся, слухала. Колькі сіл і цярпення патрабавалася, каб зрабіць з нясмелых навічкоў сапраўдных актывістаў! Цяпер яны вось як разважаюць, па-гаспадарску, па-дзяржаўнаму. А калісьці і слова прамовіць не асмельваліся. Сем гадоў на яе вачах раслі і мужнелі! Усяго было за гэты час: і радасцей, і няўдач, і памылак...

Усё можа дараваць моладзь: памылкі, залішнюю строгасць, толькі не роўнадушша... І калі ты выконваеш свае абавязкі не паслужбоваму, не механічна, а ўкладваеш у іх усю душу, моладзь даверліва раскрывае перад табою свае сэрцы.

**г. Мінск,**
**інтэрнат будтрэста № 2.**

Сцяпан **ГАЎРУСЕЎ**

## На родных дарогах

По родных дарогах праходзяць машыны —
Чырвоны абоз маладой збажыны.
Шафёру-дзяўчыне з адкрытай кабіны
Шырокія светлыя далі відны.

Алеюць у косах дзявочых істужкі,
Рука абхапіла баранку руля.
Вясельную песню запелі падружкі —
І ўторыць ім жніўвеньскім рэхам зямля.

І поле, і сонца — усё залатое,
І дыша усё непаўторнай красой.
І сэрца міжволі ляціць маладое
За песняй дзявочай, за русай касой.

## На парадзе

Краса і гордасць наша на парадзе —
Ідуць байцы, ускінуўшы штыкі.
І позіркам шукае сына маці,
Ды апазнаць не здолела — які.

Сыноўні твар ты ведала так добра,
А сёння не адрозніш ад другіх:
Усе на сына роднага падобны,
І ён падобны на любога з іх.

## Яшчэ ўчора...

Яшчэ ўчора русы гарманіст
Вас вечарамі клікаў на гулянку.
І, слухаючы салаўіны свіст,
Вы пад акном сядзелі да світанку.

Вы між сабой расстацца не маглі
І раніцой, як патухалі зоры,
Развітваліся і дамоў ішлі,
І зноў вярталіся... яшчэ ўчора...

Сягоння шумналістая вясна
Паклікала вас у прастор свой сіні.
Ды вас не дачакалася яна —
Вы ўдвух стаіце над калыскай сына.

У вокны вее свежасцю зямной,
І дрэвы поўняцца вясновым сокам.
А ваша маладосць не за спіной,
Яна спявае за акном высокім.

## НА РАДЗІМЕ Ф. ДЗЕРЖЫНСКАГА

Ад станцыі Стоўбцы дарога то збягае ўніз, то раптам — на ўзгорак або выпростваецца і цягнецца, быццам струна. Але вось засталіся ззаду Стоўбцы, не відаць ужо Нёмана, і навокал — густыя, дрымучыя, спрадвечныя лясы. Да лесу туляцца вёскі. Яшчэ здалёк відаць новыя калгасныя будынкі, сіласныя вежы і ветракі.

Гэта родныя месцы Ф. Э. Дзяржынскага.

Не раз ён ад'язджаў і прыязджаў на станцыю Стоўбцы. Гэта была бліжэйшая чыгуначная станцыя да Дзяржынава, дзе ў 1877 годзе ў сям'і настаўніка нарадзіўся Фелікс Эдмундавіч.

Вось Рубяжэвічы, у мінулым маленькае гандлёвае мястэчка, а цяпер буйны калгас і культурны цэнтр са школай, бібліятэкай, чытальняй. Адсюль недалёка да Рудні, а там яшчэ бліжэй да Дзяржынава (Івянецкі раён), дзе яшчэ да вайны захоўваўся драўляны домік Дзержынскіх.

Домік стаяў на водшыбе, як і кожны хутар. Здавалася, што жыццё праходзіць воддаль ад гэтага хутара. Але гэта толькі здавалася. Фелікс рана пасябраваў з кнігай. Калі ён падрос, з'явілася пытанне, дзе яму вучыцца. Бацькі адвезлі яго ў Вільнюс і аддалі ў школу. Феліксу не было тады і дзевяці год.

Але Дзяржынава, хоць Фелікс Эдмундавіч пражыў у ім толькі раннія гады, назаўсёды засталося ў яго памяці. У вёсках, якія размешчаны навокал Дзяржынава, жылі беларускія, польскія, рускія і літоўскія сяляне. Жылі яны ў даўняй дружбе, і гэтая дружба была зародкам таго палымянага інтэрнацыяналізма, непахісным прыхільнікам якога заўсёды быў Фелікс Эдмундавіч.

На летнія канікулы Фелікс Эдмундавіч вяртаўся ў Дзяржынава. Гэта было святам не толькі для сям'і, але і для многіх сялян. Дзержынскі быў жаданым госцем у доме бацькоў. Ён пісаў ім лісты і прашэнні, чытаў уголас цікавыя кнігі або расказваў, як жывуць людзі ў гарадах. І сам Фелікс любіў летнія месяцы, якія ён ахвотна праводзіў у родным кутку.

Трывожным і неспакойным было жыццё Дзержынскага ў дарэвалюцыйныя гады. Месяц на волі — год у турме. Смелыя ўцёкі і зноў — падполле. Зноў арышт. І дзе-б ён ні сядзеў — у Нолінску, Кангародску, у Варшаўскай цытадэлі, Сядлецкай турме, у Якуціі, Орлоўскім цэнтрале, Бутырскай турме, — далёкая Беларусь, акружаны густымі лясамі Івянец, роднае Дзяржынава заўсёды помніліся яму.

У цудоўных пісьмах Дзержынскага, пісьмах, якія і сёння хвалююць, на якіх выхоўваецца наша моладзь, — не раз упамінаецца любімы куток. Фелікс Эдмундавіч марыў бачыць яго ў росквіце. Ужо тады ён верыў, што прыдуць другія дні і на прынёманскія прасторы.

У першыя-ж дні рэвалюцыі 1917 года імя Дзержынскага — гордае, бясстрашнае імя — загучала ўсенароднай славай. І бедНякі з Рубяжэвічаў, чытаючы газеты, з задавальненнем гаварылі:

— Наш Фелікс свайго жыцця за праўду не шкадуе. Заўсёды аб нас, бедняках, памятае.

Сяляне часта пісалі Феліксу Эдмундавічу пісьмы, і ён адказваў ім. Строгі, справядлівы, цвёрды, сардэчны — такім ён запомніўся сваім землякам.

Калі ў 1941 годзе пачалася вайна з фашысцкімі захопнікамі і працоўныя Івянецкага раёна ўступілі ў рады партызан, аб самых бясстрашных народных мсціўцах гаварылі, што яны змагаюцца, як дзяржынцы.

Атрады народных мсціўцаў насілі яго імя, і гэта палохала фашыстаў. Вораг прыходзіў у жах ад аднаго ўспаміну імя Дзержынскага. У бяссільнай злосці фашысты спалілі домік на хутары Дзяржынава, дзе жыў Дзержынскі, закатавалі роднага брата Фелікса Эдмундавіча — інжынера Казіміра Эдмундавіча, персанальнага пенсіянера.

Прайшлі гады.

Непазнавальна змяніліся месцы навокал Дзяржынава. Няма больш вузкіх палосак на палях. Даўно перасталі тут быць дзівам трактар, камбайн і складаныя малатарні. Юнакам і дзяўчатам не трэба ехаць у далёкія гарады, каб атрымаць сярэднюю адукацыю. Дзверы сярэдніх школ адкрыты для іх у Івянцы. Над многімі хатамі — радыёмачты, у хатах — электрычнае святло. Калгаснікі выпісваюць многа газет, часопісаў.

Са слаўнага імя Дзержынскага пачынаецца ўрок у мясцовых школах першага верасня. Летам у Дзяржынава прыходзіць многа экскурсантаў, яны з любоўю агдядаюць тыя месцы, дзе нарадзіўся, правёў дзіцячыя гады жалезны рыцар рэвалюцыі Фелікс Эдмундавіч Дзержынскі, жыццё якога Уладзімір Маякоўскі ставіў у прыклад кожнаму юнаку.

**Я. САДОЎСКІ.**

*Тэхніка нашых дзён*

## Аўтаматыка і тэлемеханіка

Слова «аўтамат» паходзіць ад старажытнагрэчаскага «аўтаматос», што азначае «які сам сабой рухаецца, сам сабой узнікае».

Слова «тэлемеханіка» складаецца з двух старажытнагрэчаскіх слоў: «тэле» — «далёка» і «механэ» — «прылада, машына, сродак».

Тэлемеханіка ўзнікла з тэхнікі тэлеграфа і тэлефона. Узбагачаючы свой тэхнічны інвентар за лік сродкаў радыё і тэлебачання, пашыраючы свае магчымасці выкарыстаннем оптыкі і акустыкі, яна зрабілася самастойнай галіной тэхнікі і навуковай дысцыплінай, у задачы якой уваходзіць кантроль і кіраванне вытворчымі і тэхніка-эксплуатацыйнымі працэсамі на адлегласці.

...Самалёт ляціць у паветры высока над зямлёй. Пілот «пакідае» кіраваць ім і выходзіць са сваёй кабіны да пасажыраў. Гэта выклікае здзіўленне і хваляванне на тварах многіх. Але самалёт спакойна ляціць далей — яго вядзе аўтапілот.

... Цямнее — і святло вулічных ліхтароў запальваецца «само». Днее — і святло «само» гасне. Тое-ж самае адбываецца на маяках.

... Электрастанцыя працуе, дае электраэнергію. Але сама яна замкнута на замок — людзей на ёй няма. Электраэнергію аўтаматы выпрацоўваюць «самі».

На буйнейшай з будоўляў мінулай пяцігодкі — канале імя Масквы — у шырокіх маштабах прыменена самадзейнічаючае (аўтаматычнае) і дальнакіруючае (тэлемеханічнае) абсталяванне. На працягу ўсёй даўжыні канала (128 км) толькі першыя 18 км волжскія воды ідуць па каналу самацёкам. Далей яны падымаюцца на вышыню 40 м пяццю насоснымі станцыямі. Суднам, якія ідуць з Волгі ў Маскву, трэба падняцца спачатку на пяці прыступках гэтай своеасаблівай вадзяной лесвіцы на водараздзел, а затым спусціцца к Маскве па трох прыступках. Гэты пад'ём і спуск адбываецца пры дапамозе велізарных шлюзаў, кіраванне якімі аўтаматызавана і тэлемеханізавана.

На пульце кіравання, ля якога сядзіць дыспетчар і які аддалены на многа метраў ад варот шлюза, ёсць ключ аўтаматычнага кіравання са шкалой, на якой нанесены два асноўныя цыклы аперацый — пад'ём і спуск судна. Прыборы, схемы, сігнальныя лямпы, размешчаныя на пульце, даюць дзяжурнаму дыспетчару поўнае ўяўленне аб тым, у якім стане знаходзяцца ўсе элементы складанай шлюзавай гаспадаркі. Першым паваротам ключа дыспетчар робіць падрыхтоўку камеры, другім паваротам — забяспечвае пропуск судна. Заканчэнне папярэдняй аперацыі аўтаматычна выклікае пачатак наступнай.

У машынных і апаратных памяшканнях шлюзаў няма абслугоўваючага персаналу. Памяшканні замкнуты на замок. У вызначаныя дні сюды прыходзяць тэхнікі, абавязкам якіх з'яўляецца нагляд за станам абсталявання.

Яшчэ больш складаным аб'ектам для аўтаматызацыі і тэлемеханізацыі з'яўляюцца гідраэлектрастанцыі канала. Самая буйная з пяці станцый канала — Іванькаўская — аўтаматызавана і кіруецца пры дапамозе тэлемеханікі з цэнтральнага дыспетчарскага пункта, размешчанага ў 65 км ад яе.

Шырока прымяняецца аўтаматыка і тэлемеханіка на чыгуначным транспарце.

Цягнік імчыцца поўным ходам. Машыніст задумаўся і не заўважыў, што цягнік з вялікай хуткасцю набліжаецца да закрытага светафора. На светафоры гарыць чырвоны ліхтар. Але калі паравоз наблізіўся да светафора, поезд, рэзка затармазіўшы, раптам «сам» спыніўся. Аўтамат, які называецца аўтастопам, зрабіў гэта за машыніста.

Як-жа гэта адбылося?

На паравозе знаходзіцца асвятляльная лямпа. Яна пры дапамозе прызмы накіроўвае прамень святла праз выхадную адтуліну прыбора пад адпаведным вуглом. Калі светафор закрыты (гарыць чырвоны ліхтар), то люстэрка на крыле паравоза адбівае прамень, пасланы лямпай. Гэты адбіты прамень трапляе праз другую адтуліну абароннага апарата на фотаэлемент, устаноўлены на паравозе. Пад уздзеяннем фотаэлемента спецыяльнае рэле ўключае тармазы, і цягнік спыняецца. Пры свабодным шляху (зялёны ліхтар на светафоры) прамень святла не дзейнічае на фотаэлемент.

Пасажыры бачаць на перагонах і станцыйных пуцях световыя сігналы — светафоры.

Сігналы на чыгунках існуюць здаўна, з першага дня яе існавання. Быў час, калі перад цягнікам ехаў верхавы, які назіраў за пешаходамі, сустрэчнымі экіпажамі і адначасова за станам пуці. Калі хуткасць і інтэнсіўнасць руху павялічыліся, узнікла неабходнасць у такіх тэхнічных прыстасаваннях, якія-б дапамаглі ажыццявіць надзейную і трывалую сістэму рэгулявання руху цягнікоў. Спачатку была распрацавана так званая поўаўтаматычная сістэма блакіроўкі.

На змену поўаўтаматычнай прыйшла аўтаматычная блакіроўка. Пры ёй адкрыццё і закрыццё сігналаў, што рэгулююць рух цягнікоў, робіцца аўтаматычна самім цягніком.

Аўтаматыка і тэлемеханіка ў арганізацыі руху цягнікоў былі прыменены ў першую чаргу ў тэхніцы сігналізацыі. Сігналізацыя пастаўлена ў строгую залежнасць ад таго, заняты ці не заняты пуць на даным участку, ад стану і спраўнасці стрэлак і гарантуе цягнік ад усякай небяспекі на працягу ўсяго шляху. Тэхніка сігналізацыі забяспечвае перадачу сігнала ў будку паравоза такім чынам, каб машыніст успрыймаў яго незалежна ад умоў бачымасці сігнала на пуці і каб паказчыкі забараняючага сігнала (чырвоны колер) мелі магчымасць аўтаматычна, незалежна ад дзеяння машыніста, спыніць цягнік.

Аўтаблакіроўка — асноўны сучасны сродак, які ахоўвае рух цягнікоў ад небяспекі і забяспечвае максімальную прапускную здольнасць чыгуначнай лініі.

**П. КРЫЖАНОЎСКІ.**



**Рашэннем ВЦСПС і Міністэрства шляхоў зносін пераможцам ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве чыгуначнікаў у першым квартале прызнана Беларуская чыгунка. Ёй уручаны пераходны чырвоны сцяг і першая прэмія. З законнай гордасцю сустрэў гэтую вестку калектыў чыгункі. Асабліва вызначыліся брыгады паравознага дэпо Жлобін. Яны водзяць па маршруту Гомель — Жлобін — Асіповічы паязды двайной вагі.** На здымку: **машыніст комсамольскага паравоза дэпо Жлобін, ініцыятар ваджэння цяжкавагавых паяздоў Мікалай Ісакавіч Здараўцоў.**

Фото Н. Калядзінскага.

# Будзьце знаёмы









Над высокімі варотамі — надпіс «Зоапарк».

Разам з вялікай групай экскурсантаў мы накіроўваемся ў госці да крылатых і чатырохногіх жыхароў гэтага цудоўнага парку ў Гродна. Львы і малпы, пугачы і вярблюды, ласі, вавёркі, мядзведзі сустракаюць вас кожны ў адпаведнасці са сваімі норавамі і звычкамі.

Давайце знаёміцца.

Вялікі буры мядзведзь «Грышка», прыкмеціўшы, што нехта з прыбыўшых лузае семечкі, прасунуў галаву скрозь краты і, злёгку пафыркваючы, патрабуе пачастунку. Леў «Макар», наадварот, выглядае зусім роўнадушным. Сваю абыякавасць ён скідвае толькі каля пяці гадзін вечара, калі настае пара кармлення. Ён не галодны, але да мяса не можа заставацца роўнадушным.

Пугачы... «Рэдкая птушка. З'яўляецца своеасаблівым помнікам прыроды», так сказана ў тлумачальнай табліцы, якая прымацавана да клеткі. Тут іх многа. На працягу дня наведвальнікі некалькі разоў падыходзілі да іх: пугачы нязменна сядзелі з заплюшчанымі вачыма. Але вось нехта піскнуў па-мышынаму, і пугачы адразу ажывіліся. Вочы іх вельмі прыгожыя: яны здаюцца бурштынавымі і па памерах набліжаюцца да пятака.

У вальер да вепраў пры нас заходзіла маладая супрацоўніца зоапарку Жэня Сянкевіч. Гэтыя дзікія жывёлы, якія ніколі не прэтэндавалі на званне сябра чалавека, адносяцца да свайго наглядчыка зусім па-сяброўску. Але сапраўдны



прыклад нечаканага сяброўства даюць тыгр «Акбар» і звычайны рабы сабачка «Тузік». «Акбару» было ўсяго тры месяцы, калі яго прывезлі сюды з Рыгі. Ён вельмі сумаваў па сваёй маці, не еў. Для таго, каб маленькі «Акбар» перамог свае адзіноцтва, да яго ў клетку ўпусцілі шчанё. І вось ужо хутка год, як яны жывуць разам: разам ядуць, разам гуляюць, разам фатаграфуюцца.

Вярблюд, да таго-ж пастрыжаны пад машынку, мае даволі нязграбны выгляд. Аднойчы, гэтай вясною, у халодную ноч яго паставілі ў стойла, па суседству з маладой ласіхай. «Красуля», так звалі ласіху, родам з лесу недалёка ад Клімавіч Магілёўскай вобласці, не мела аб вярблюдах ніякага ўяўлення. Як яна спалохалася, калі аднойчы раніцай да яе цераз перагародку зазірнуў вось









такі незнаёмы барадаты звер! Ласіха забегла ў самы далёкі куток паркавай тэрыторыі. Яна вярнулася ў стойла толькі пасля таго, як «карабель пустыні» пакінуў цёплы хлеў.

У заапарку заўсёды весела. Адных толькі экскурсій за поўгоддзе перабывала больш двухсот.

«Я быццам павандраваў па зямному шару!» — запісаў у кнізе наведвальнікаў чыгуначнік з г. Ліда. І сапраўды: ён бачыў тыбецкага яка, індакітайскіх парасят, медзведзянят з Гімалаяў, паўлінаў з вострава Цэйлон, ружовых пеліканаў, якія жывуць на Каспіі і Чорным моры, прыгожых залацістых фазанаў (сапраўдных жар-птушак!), якія прывезены з Поўднёвага Кітая, і іх землякоў — кракадзілаў, маленькіх шатландскіх конікаў— поні... Усяго не пералічыш!..

г. Гродна.

Тэкст і фота А. Дзітлава.

# КАНЦЭРТ МОЛАДЗІ

Ці знойдзецца такі чалавек, які-б не любіў мастацтва танца? Ці магчыма заставацца роўнадушным, калі бачыш цудоўныя народныя танцы, то поўныя задору, то задушэўна-летуценныя? А колькі магчымасцей для выражэння чалавечых пачуццяў, колькі высакароднай строгасці і зграбнасці ў палётных руках класічнага танца! Сапраўды, у танцы гучыць музыка прыгожых рухаў чалавека.

Але мастацтва танца толькі знешне здаецца простым, лёгкім. Чым танец здаецца больш лёгкім, непасрэдным, тым складаней авалодаць ім. За майстэрствам танцора хаваецца велізарная праца.

Сваю прафесійную вучобу будучыя салісты балета пачынаюць рана. Дзесяцігадовыя дзяўчынкі і хлопчыкі прыходзяць у харэаграфічнае вучылішча пасля трох год навучання ў агульнаадукацыйнай школе. Наперадзе ў кожнага з прынятых у харэаграфічнае вучылішча — дзевяць год напружанай вучобы. Артыст савецкага балета павінен быць усебакова развітым. Вось чаму навучэнцы за гэтыя гады праходзяць усе агульнаадукацыйныя дысцыпліны, каб здаць экзамен на атрыманне атэстата сталасці. Яны вывучаюць мастацтва народна-характарнага, дуэтна-класічнага, гістарычнага танцаў, авалодваюць акцёрскім майстэрствам, ігрой на фартэпіяна, гісторыяй балета і музычнай культуры, уменнем грыміравацца.

Многа юнакоў і дзяўчат навучаецца ў Беларускім дзяржаўным харэаграфічным вучылішчы. Тут дзеці рабочых мінскіх прадпрыемстваў і калгаснікаў бліжніх да горада раёнаў, ваеннаслужачых, інтэлігенцыі і выхаванцаў дзіцячых дамоў. Сярод іх ёсць выдатнікі і проста добра паспяваючыя. Многа цёплых слоў можна пачуць пра Яўгенія Казакова, Лёню Палякоўскага, Валю Дудкевіч, Свету Бастун, Эльвіру Талмачову, Свету Шалюту, Рыту Алфімаву і іншых. З павагай і гонарам гавораць педагогі аб шматбаковым таленце выпускніцы вучылішча Юліі Будзікавай, аб мяккім лірызме танца выпускніцы Разаліі Блюм, аб драматычнай насычанасці танцавальных вобразаў, якія стварае выпускніца Тамара Захарэвіч.

Штогадовы вынік у авалоданні танцавальным мастацтвам падводзіцца ў харэаграфічным вучылішчы не толькі на экзаменах. Адказнай праверкай з'яўляецца і гадавы справаздачны канцэрт напярэдадні летніх канікулаў. У гэтым годзе ў канцэрце ўдзельнічала многа будучых таленавітых салістаў балета.

На здымках унізе: **1. Выпускнікі Р. Блюм і Г. Мартынаў выконваюць «Мазурку» Чайкоўскага (педагог І. Дароніна). 2. Выпускнікі Ю. Будзікава і Г. Мартынаў выконваюць харэаграфічную сцэну «Фіялкі». Пастаноўка заслужанага артыста БССР К. Мулера, музыка Д. Лукаса.**

На здымках справа: **1. Беларускі народны танец «Крыжачок» выконваюць вучні малодшых класаў вучылішча. Пастаноўка К. Мулера. 2. Вучні 4-га класа выхаванкі дзіцячага дома № 7 Ларыса Міхеда, Вольга Звадзінская, Валя Карчакоўская выконваюць беларускі народны танец «Бульба» (педагог Я. Карпаў). 3. Румынскі народны танец выконваюць вучні 8-га класа (педагог І. Дароніна).**

Тэкст І. Ніснevіча.
Фота І. Салавейчыка.











# САТЫРА І ГУМАР

**Тарас ЖЫГАЛКА**

# НА ЛАЎЦА І ЗВЕР БЯЖЫЦЬ







Мал. А. Волкава.

Вясна ў нашым доме пачыналася з таго, што Агнэса Тэакратаўна выносіла на балкон халаты і піжамы і пачынала выбіваць з іх пыл. Уласна кажучы, выносіла піжамы і выбівала пыл не Агнэса Тэакратаўна, а домработніца Насця, а Агнэса Тэакратаўна толькі ажыццяўляла агульнае кіраўніцтва. Звычайна пасля такой папярэдняй падрыхтоўкі Агнэса Тэакратаўна ішла ў цырульню. Калі пад вечар яна паяўлялася ў пад'ездзе, пенсіянер дзядзька Косця іранічна заўважаў: «Вось і вясна прышла, бузіна распусцілася».

Увечары Агнэса Тэакратаўна штурмавала свайго мужа Апалона Сідаравіча. Штурм часта зацягваўся, і тады мы, жыхары трэцяга **паверха, чулі, як уводзяцца ў** дзеянне даўно выпрабаваныя сродкі асады мужчын. Спачатку Агнэса Тэакратаўна ласкава варкавала, затым жаласліва даказвала, што яна, мусіць, не дацягне да восені, калі не паедзе лячыцца, потым папракала мужа, што ён яе не кахае і нават не паважае, а яна аддала для яго шчасця усё сваё здароўе. Калі-ж не дапамагала і гэта, разгневаная жонка пераходзіла на крыклівыя ноты і звычайна заканчвала істэрыкай і стратай прытомнасці. Назаўтра Агнэса Тэакратаўна з выглядам пераможцы выходзіла на лесвічную пляцоўку і з замілаваннем расказвала пра незвычайную чуласць свайго мужа, які ўчора на каленях упрошваў яе паехаць на курорт.

Так пачыналася вясна ў Агнэсы Тэакратаўны. А потым усё ішло па пісанаму на пуцёўках. У маі яна адкрывала сезон у Ялце, па шляху заглядала ў Еўпаторыю, у ліпені ехала на Рыжскае ўзмор'е, у жніўні піла нарзан у Кіславодску і заканчвала сезон дзе-небудзь на гары Афон альбо ў Сочы, на беразе Чорнага мора. Здароўе Агнэсы Тэакратаўны папраўлялася, і яна гатова была працаваць цэлую зіму, не пакладаючы рук. А спраў у яе было багата.

Па-першае, моды. За лета ўсё мянялася. Доўгія вячэрнія плацці раптам аджывалі свой кароткі век. Капронавыя панчохі з чорнай пяткай станавіліся зусім не моднымі. А што гаварыць пра туфлі, паліто, плашчы, пярсцёнкі! Леташняе хоць выкідай вон...

Па-другое, дачка Марсалінка. Бедная Агнэса Тэакратаўна выбівалася з сіл, імкнучыся хоць якнебудзь паспяваць з уладжваннем спраў сваёй дачкі. Яна праяўляла цуды стратэгіі і тактыкі: пераводзіла Марсалінку з адной школы ў другую, ваявала з гісторыкамі і матэматыкамі, упрошвала, пагражала, даказвала і амаль заўсёды выходзіла пераможцай.

А калі Марсалінка паступіла ў інстытут, у Агнэсы Тэакратаўны на папраўку здароўя нехапала ўжо і трох летніх месяцаў, так знемагала яна ў барацьбе з ворагамі Марсалінкі.

— Ах, гэтыя дзеці! — заплюшчваючы ў знямозе вочы, гаварыла звычайна Агнэса Тэакратаўна сваёй персанальнай манікюршчыцы. — Ім аддаеш усё: і здароўе, і маладосць, і прыгажосць сваю. Хутчэй-бы ўжо прыходзіў гэты комунізм. Апалоша гаварыў, што тады дзяцей будзе выхоўваць дзяржава. Набудуюць дзяцячых садоў, ну там розных, накшталт пансіёнаў, санаторыяў. І дзеці зусім не будуць перашкаджаць бацькам займацца сваімі справамі. Толькі калі гэта будзе? І ці дачакаемся мы з вамі?

— Ну, што вы, што вы, — супакойвала яе манікюршчыца. — Вы яшчэ сто год жыць будзеце.

— Не хачу, не хачу, — адмахвалася Агнэса Тэакратаўна, быццам перад ёй на стале ляжалі сто год, якія яна павінна забраць сабе.

— А наконт дачкі вам турбавацца не варта. Дарослая ўжо. Хутка інстытут закончыць.

Агнэса Тэакратаўна безнадзейна махнула рукой.

— Сіл маіх больш нехапае.

— Любачка мая, аб ёй ужо могуць турбавацца другія. Мы ў семнаццаць год дзяцей гадавалі.

Агнэса Тэакратаўна ледзь не захліпнулася ад радасці. І як ёй толькі самой не прышла ў галаву такая думка! Сапраўды, усё геніяльнае вельмі простае.

Увечары яна паклікала Марсалінку да сябе ў спальню. Піла чорны кофе (для падтрымання свежасці твару) і выкладвала перад дачкою запасычаную ў манікюршчыцы ідэю.

— Не век-жа табе, любачка, за матчынай спіной сядзець. Галоўнае ў жыцці, мая даражэнькая, трывалая апора. А што твой дыплом — паперка. У жыцці ён не спатрэбіцца. Іншая справа — добры муж. Гэта не дыплом — цэлая кандыдацкая дысертацыя.

«Любачка» і сама разумела, што трэба шукаць трывалую апору. На гэта не патрабаваўся вялікі розум.

І кватэра Агнэсы Тэакратаўны на доўгі час ператварылася ў біржу жаніхоў.

Марсалінка мела свежы, круглы тварык, насмешлівы, ледзь курносы, далікатную, зграбную фігуру. А калечкі валасоў на скронях так, здаецца, і гаварылі: «Пакахай мяне, вось я якая незвычайная». Таму ў жаніхах асаблівага недахопу не адчувалася. Аднак Агнэса Тэакратаўна адхіляла кандыдатуру за кандыдатурай.

— Любачка, у яго ніякай перспектывы... Сельскі ўрач... — гаварыла яна пра аднаго.

— Фі, выдатнік, стыпендыят!. Табе патрэбен муж, а не яго адзнакі, — праганяла другога.

— Яму трэба не жонка, а кухарка, — абуралася трэцім.

— Я ўжо і не ведаю, каго табе трэба, мамачка,—ледзь не плакала Марсалінка.

— Не мне, а табе. Знайдзі такога, каб на руках цябе насіў, каб забяспечыць цябе мог. Каб не папракаў цябе кожнай сукенкай. Я ад Апалона Сідаравіча ніколі ні ў чым адказу не чула.

— Але дзе-ж яго знайсці такога? — пыталася Марсалінка.

— Знойдзем, — упэўнена адказвала Агнэса Тэакратаўна. — Сама шукаць буду.

— Зусім наіўнае дзеўчанё, — гаварыла неўзабаве Агнэса Тэакратаўна сваёй манікюршчыцы. — Нічога не кеміць. Вы-ж, Зоя Ермалаеўна, жанчына бывалая, параілі-б нам каго.

— Можна, — адказала манікюршчыца, — усё можна. А ёй хто больш падабаецца: брунеты ці мо' бландыны? У мяне адзін на прыкмеце ёсць. Вусікі, шавялюра модная — адно заглядзенне.

— Нам усё роўна, абы, ведаеце, чалавек не бедны, добры заробак меў, ці можа з боку адкуль даход пэўны быў. Ну, і, вядома, культурны. Пры нашым становішчы ды якога-небудзь, прабачце, неабчэсанага Сцёпку — немагчыма. Ды і Марсалінка ў мяне на тонкіх нюансах выхавана: паклонніца спевака, гэтага, як яго... вось забылася!.. І, між намі, сама рамансы складае.

— Ну што вы, я разумею. Будзьце ўпэўнены, самы інтэлігентны малады чалавек, а ўжо манеры такія тонкія, што залюбуецеся..

Жаніх сапраўды аказаўся з тонкімі манерамі. Цалаваў ручкі ў цёшчы, шаркаў нагой, сядзеў на крайку крэсла і больш за ўсё гаварыў пра музыку і вершы, ды пра нейкую адказную камандзіроўку за граніцу. Агнэса Тэакратаўна была ў захапленні. Марсалінцы ён таксама спадабаўся з першага погляду: вусікі — гэта-ж так прыгожа! Яшчэ і благародны шрам на твары. Усё нібы з рамана.

Вяселле набліжалася з дня на дзень. Яго падганялі і Агнэса Тэакратаўна і Зоя Ермалаеўна.

Але вось пашыта белае плацце, напечаны пірагі, накуплены віны. Жаніх у чаканні кватэры, якую яму абяцалі даць на другі дзень вяселля, жыў у доме нявесты, за ўсім наглядаў, нерваваўся. І вось настаў дзень вяселля.

— Трэба было-б схадзіць павіншаваць маладых, — сказаў пенсіянер дзядзька Косця. — Калі



жаніх путны чалавек, дык можа не дапусціць, каб і Марсалінка стала Агнэсай Тэакратаўнай. Марсалінку яшчэ можна навучыць жыццё разумець. Трэба толькі, каб у добрыя рукі трапіла.

У хаце было поўна гасцей.

— Паказвайце маладых, няма чаго хаваць іх,—жартаваў дзядзька Косця.

Паклікалі нявесту — выйшла, жаніха — няма. Туды-сюды кінуліся — няма. Думалі, у магазін пайшоў, пачакалі — няма. Пачалі шукаць у кватэры: паглядзелі пад ложак — няма, адчынілі шафу — нічога няма: ні жаніха, ні рэчаў.

— Ты каго параіла, — накінулася Агнэса Тэакратаўна на манікюршчыцу.

— Любачка мая, я сама яго толькі два разы бачыла. Такі культурны, ветлівы.

— Жулікі вы з ім, — крычала Агнэса Тэакратаўна. — Адкуль ён на нашу галаву ўзяўся?!

— На лаўца і звер бяжыць,— сказаў дзядзька Косця. — Хіба ты чалавека шукала? Вось і натрапіла. А табе, дзяўчынка, галаву на плячах трэба мець.



Ніл ГІЛЕВІЧ



# У дзявочым інтэрнаце

Жарт

Малады матрос з эсмінца
На пабыўку прыязджаў.
Інтэрнат жаданы ў Мінску
Хлопец лёгка адшукаў.



На сустрэчу меў ён права!
Дык дзяўчатам як-ні-як —
Паглядзець усё-ж цікава,
Што ў сяброўкі за марак.

У пакоі акуратным
Хлопец гутарку вядзе —
Жыва, весела. І раптам —
Стук у дзверы: хтось ідзе.



— Выбачайце, калі ласка,
Я не знала, што тут госць.
Можа ёсць у вас жалязка?
Дык пазычце, калі ёсць!

Праз хвіліны дзве — не болей —
Зноў у дзверы хтось глядзіць:
— Ці няма ў вас часам солі?
Дайце кашу пасаліць...

А затым прышлі па кніжкі
(Хоць не трэба ім былі);
Потым міскі, кубкі, лыжкі
Да суседзяў паплылі.

Дзіва проста! Ці не хопіць!
Колькі-ж можна пазычаць?!.
Разгадаў нарэшце хлопец
Гэту «тактыку» дзяўчат.



Усміхнуўся хітравата
Да сяброўкі дарагой:
— Як відаць, у вас дзяўчаты
Разнясуць увесь пакой.

Узняла сяброўка вочы,
Вочы дзіўнай пекнаты,
І сказаў пагляд дзявочы:
— Ох, застаўся-б толькі ты!

Мал. С. Раманава.

## НОВЫЯ КНІГІ

### „Выбраныя творы“ А. Гайдара

Выдатныя творы, якія паказваюць героіку грамадзянскай вайны і працэс станаўлення характару савецкай моладзі, вучаць любіць працу і пераадольваць цяжкасці, вучаць адданасці партыі, народу і нянавісці да ворага, напісаў таленавіты дзіцячы пісьменнік Аркадзь Гайдар, творы і асабістае жыццё якога — яркі прыклад служэння савецкай Радзіме.

Беларускі чытач даўно знаёмы з творчасцю Аркадзя Гайдара. Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала кнігу выбраных твораў, дзе сабраны лепшыя аповесці і апавяданні пісьменніка.

Максім Горкі, гаворачы аб выхаванні маладога пакалення, пісаў: «Умець выхоўваць іх (дзяцей — С. А.) — гэта вялікая дзяржаўная справа, якая патрабуе таленту і шырокага ведання жыцця». Аркадзь Гайдар меў сапраўды вялікі талент мастака слова, глыбокае і шырокае веданне жыцця, выключныя здольнасці педагога і знаўцы дзіцячай душы.

Вось аповесць «Школа» і апавяданне «Р. В. С.». Гэтыя раннія творы А. Гайдара аб'ядноўвае адна тэма — паказ грамадзянскай вайны і працэс фарміравання характару маладога пакалення.

Хлопчыкі Дзімка і Жыган (апавяданне «Р. В. С.») доўга не могуць разабрацца ў бурлівых падзеях, якія адбываюцца ў невялічкай украінскай вёсцы. Яны сваім дзіцячым розумам не могуць зразумець, хто іх сябры, а хто ворагі; хлопчыкі з аднолькавай ахвотай гуляюць і ў чырвоных, і ў белых, і ў зялёных. Дзімка і Жыган выношваюць наіўную мару аб уцёках з дому, каб «пайсці добраахвотна ў які-небудзь атрад, арганізаваць уласны або падацца ў партызаны».

Але Дзімка і Жыган — сучаснікі грамадзянскай вайны, дзеці працоўнага народа, і самі падзеі жыцця прымусілі іх уключыцца ў барацьбу. Рыхтуючыся да «ўцёкаў», хлопчыкі натрапілі на раненага савецкага камандзіра Сяргеева, якога даўно шукаюць пятлюраўцы. Трэба выратаваць раненага, і Жыган смела пайшоў у горад, дзе былі чырвоныя, за дапамогай.

Баявым справам моладзі, якая праходзіла складаную школу жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы, прысвечаны адзін з лепшых твораў А. Гайдара — аповесць «Школа».

Вучань рэальнага вучылішча Барыс Горыкаў жыў у гарадку, дзе было каля трыццаці цэркваў ды чатыры манастыры, у гарадку, у якім «нічога не было чуваць пра рэвалюцыянераў». Ён быў у палоне шавіністычнага дурману, ніяк не мог зразумець, чаму ранены салдат варожа адносіцца да вайны, чаму дэзерціраваў бацька з фронта. Раптоўна ў яго жыццё ўрываюцца неспадзяваныя падзеі: расстрэл бацькі, рэвалюцыя, выключэнне са школы. Барысу Горыкаву стала цесна ў Арзамасе. Прыходзіць заўчасна сталасць. Пачынаецца новая, больш цяжкая і складаная школа — школа жыцця і барацьбы. Пасля шматлікіх прыгод і выпрабаванняў ён трапіў у партызанскі атрад Шабалава.

Рамантычная і неакрэсленая мара Барыса Горыкава аб гераічным учынку прывяла яго на шлях барацьбы і прымусіла ўзяцца за зброю, каб змагацца за «светлае царства сацыялізма». Але свядомым і мужным байцом Горыкаў стаў не адразу. Дружны калектыў сяброў-партызан, людзі з багатым жыццёвым вопытам Чубук, Шабалаў і Малыгін дапамагаюць яму зразумець суровыя законы рэвалюцыйнай барацьбы, вучаць непрымірымасці і нянавісці да ворага. Праходзячы школу ваеннай загартоўкі, Барыс часам спатыкаецца, допускае непапраўныя памылкі і недарэчную бесклапотнасць. Пісьменнік гаворыць аб тым, што Горыкаву «трэба было прайсці многа цяжкіх дарог і пераадолець многа цяжкіх перашкод», пакуль ён стаў байцом-комуністам, поўнапраўным членам партызанскай сям'і.

У аповесці «Школа» А. Гайдар паказаў не толькі прадстаўнікоў маладога пакалення, ён стварыў яркія і запамінальныя вобразы байцоў Савецкай Арміі — Чубука, Шабалава, чэха Галды, Цыганёнка і інш.




У аповесці «Далёкія краіны» Гайдар паказвае жыццё дзяцей маленькага чыгуначнага раз'езда, дзе пачынаецца вялікая стваральная праца. Кожны дзень для Ваські і Пецькі багаты навінамі. На іх вачах глухі мядзведжы куток ажывае, пачынаецца яго перабудова: арганізуецца калгас, разгортваецца будаўніцтва алюмініевага завода. Пісьменнік побач з пафасам стваральнай працы паказвае юнаму чытачу зацятую класавую барацьбу з ворагамі савецкай улады. Аповесць заканчваецца цікавым і шматзначным малюнкам, які сімвалізуе перамогу новага жыцця: у той дзень, калі адбываецца пахаванне старшыні калгаса, забітага кулакамі, закладаецца корпус новага гігантскага завода.

Беларускі чытач у новай кнізе А. Гайдара знойдзе аповесць «Цімур і яго каманда» і апавяданне «Чук і Гек» — класічныя творы савецкай дзіцячай літаратуры. А. Гайдар стварае незвычайны, але разам з тым тыповы вобраз новага чалавека, маленства і юнацтва якога праходзіць у савецкай краіне. Цімур — гэта ўвасабленне лепшых якасцей характару савецкай моладзі: сумленнасці, смеласці, дысцыплінаванасці, шчырага сяброўства, любві да чалавека і яго працы.

З цёплым лірычным пачуццем і любоўю да роднай прыроды, з майстэрствам вялікага знаўцы чалавечага характару напісана цудоўнае апавяданне «Чук і Гек». Сам пісьменнік пра змест твора пісаў, што гэта шчырае слова «аб сям'і, аб савецкіх людзях, якія жывуць і працуюць каля нас і разам з намі, аб лесе, аб рэчцы, аб прыгожым савецкім мірным жыцці, аб шчасці».

У кнізе Аркадзя Гайдара, выдадзенай у перакладзе на беларускую мову, сабраны лепшыя аповесці і апавяданні пісьменніка-воіна і комуніста, творы якога вучылі і вучаць савецкую моладзь любіць Радзіму, народ, партыю і Савецкую Армію, смела пераадольваць цяжкасці і перашкоды.

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ.

# ГОНКІ З ПЕРАШКОДАМІ










**У горадзе Мінску былі праведзены першыя матацыклетныя рэспубліканскія спаборніцтвы Добраахвотнага таварыства садзеяння Арміі, Авіяцыі і Флоту (ДТСААФ). Матацыклетныя спаборніцтвы ДТСААФ'а вызначаюцца складанымі перашкодамі, якія павінен пераадолець на сваім шляху матацыкліст.**

**Вось на шляху — забалочаны брод. Удзельнік спаборніцтваў К. Дзямідчык умела фарсіруе яго.**

**На шляху матацыкліста — глыбокі роў. Па вузенькай сцяжынцы матацыкліст перапраўляецца на другі бок.**

**А вось і яшчэ адна перашкода. Праехаць яе можна толькі нізка нагнуўшыся над рулём.**

Фото Н. Гацко.




**пад рэдакцыяй майстра спорту**

**А. СУЭЦІНА**

## З партый матча Батвіннік—Смыслоў

Матч паміж мацнейшымі шахматыстамі свету М. Батвіннікам і В. Смысловым, які сёлета адбыўся, праходзіў у выключна напружанай барацьбе. Ён закончыўся ўнічыю, і па ўмовах розыгрышу званне чэмпіёна свету засталося за М. Батвіннікам. Смыслоў паказаў сябе дастойным прэтэндэнтам на гэтае пачэснае званне.

У матчы было сыграна нямала каштоўных для тэорыі, павучальных партый. Прыводзім 9 партыю матча, якая лічыцца найпрыгажэйшай з усіх сустрэч гэтых выдатных шахматыстаў.

Французская.

**Смыслоў — Батвіннік.**

1. e4 e6, 2. d4 d5, 3. Кc3 Cb4, 4. e5 (У некалькіх партыях матча сустрэўся варыянт 4. a3 C:c3, 5. bc de, 6. Фg4 Kf6, 7. Ф:g7 Лg8, 8. Фh6. Як паказаў ход партый, гэты варыянт не прыносіць белым асаблівай выгады.) 4. ... c5, 5. a3 Ca5 (Гэты працяг слабей, чым 5. ... C:c3, таму што дае белым важны тэмп для атакі на каралеўскім флангу.) 6. 4! (Моцны ход, рэкамендаваны Алёхіным. Слабей 6. Фg4 Ke7, 7. dcC:c3, 8. bc Ka7!, як іграў Рашэўскі з Батвіннікам (чорныя). Матч СССР — ЗША 1946 г.)

Чорныя атрымалі перавагу ў цэнтры.

6. ... Cd (На 6. cb белыя, працягваючы 7. Kb5! ba+, 8. C3 Cc7, 9. Ca3, атрымліваюць моцную атаку.)

7. Фg4! (Найбольш моцны працяг, які ставіць пад сумненне ўсю сістэму абароны чорных.) 7. ... Kge7, 8. ba! dc, 9. Ф:g7 Лg8, 10. Ф:h7 Kbd7, 11. Kf3 Kf8 (Лепш было 11. ... Фc7, імкнучыся да контрігры, а не да пасіўнай абароны.) 12. Фd3 Ф:a5, 13. h4! (Цудоўны план. Рухам крайняй пешкі белыя зусім скоўваюць замыслы партнёра.) (13. ... Cd7, 14. Cg5 Лac8, 15. Kfd4 Kf5, 16. Лb1! Лc4 (На 16. ... b6 магло выйсці 17. Kb5! з пагрозай 18. Ф:f5! ef, 19. Kd6×1.) 17. K:f5 ef, 18. Л:b7 Лe4+.



(Памылка, якая дазваляе белым эфектна фарсіраваць выйгрыш. Больш складаная задача белых пасля 18. ... Л:g5! 19. hg Лe4+, 20. Ce2! Kg6, 21. Kpf1 K:e5, 22. Фb5!, але і ў гэтым выпадку белыя выйгрывалі.)

19. Ф:e4!! de, 20. Лb6+ Cc8, 21. Cb5+ Ф:b5, 22. Л:b5 Ke6 (У белых рашаючая матэрыяльная перавага.) 23. Cf6! (Найкарацейшы шлях да перамогі.) 23. ... Л:g2, 24. h5 Ca6, 25. h6! чорныя здаліся.

— — —

## Шашкі

**Пад рэдакцыяй майстра спорту**
**М. ШАВЕЛЯ**

Белыя простыя: d2; e3, e7 (3)
Чорныя простыя: a3; g3 (2)
Белыя пачынаюць і выйграюць



Прыведзеная на дыяграме канцоўка атрымалася ў адной з партый выдатнага савецкага майстра В. Сокава. Знайсці выйгрыш у гэтай пазіцыі зусім не проста. У белых лішняя шашка. Але затое дзве чорныя шашкі пагражаюць прайсці ў дамкі.

Глыбока і дакладна разлічыўшы канцоўку, Сокаў адзіна правільнымі ходамі дабіўся перамогі.

Прапануем чытачам знайсці выйгрыш.



# У НУМАРЫ



На першай старонцы вокладкі: **Рэня Бабковіч, вучаніца 14-й школы г. Мінска — равесніца вызвалення свайго роднага горада ад гітлераўскіх акупантаў. Сваё дзесяцігоддзе яна сустрэла ў піонерскім лагеры. Старшая важатая лагера Н. А. Жыгалка, павіншаваўшы Рэню са святам, паведаміла аб прызначэнні яе старшынёй савета атрада.**

Фото А. Дзітлава.

На апошняй старонцы вокладкі: **Мінск. Куток універсітэцкага сквера.**

Фото А. Дзітлава.

Клішэ вокладак і каляровых здымкаў зроблены ў Першай узорнай друкарні імя А. А. Жданава ў Маскве, надрукаваны ў друкарні імя Сталіна ў Мінску.




**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара 93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Здадзена ў набор 10.VI.54 г.
Падпісана да друку 30.VI. 54 г.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.). Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20 000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 04060. Заказ № 437.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# Ляны-Ляночкі

Павольна

Раз-лі-ва-ец-ца у по-лі го-лас твой дзя-во-чы. Там дзяў-ча-ты по-люць, по-люць ой, ля-ны, ля-ноч-кі, ой, ля-ны, ля-ноч-кі.

Для паўтарэння — Для заканчэння

Словы М. ШУШКЕВІЧА.

Музыка Ів. КУЗНЯЦОВА.

Разліваецца у полі
Голас твой дзявочы.
Там дзяўчаты полюць, полюць
Ой ляны-ляночкі. (2 разы)

Што мне сінія світанні?
Сіней твае вочы.
Заквітнелі, засінелі
Ой ляны-ляночкі. (2 разы)

Ты дарыла мне ласкавы
Погляд не аднойчы.
Удаліся дый на славу
Ой ляны-ляночкі. (2 разы)

Свеціць зорка залатая
На грудзях дзявочых.
І цвітуць у нашым краі
Ой ляны-ляночкі. (2 разы)

